
Магічны цэнтр свету→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Свята хлеба→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3094) Год LX

Беласток, 30 жніўня 2015 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# На Святой Гары

Вядома, перш за ўсё, малітва суправаджала таксама сёлетняе свята Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарцы. Вернікі маглі пакланіцца мошчам (руцэ) святога Спірыдона, епіскапа Трымифунта, якія прыбылі ў Польшчу дзякуючы намаганням польскіх праваслаўных іерархаў і праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія. Святыню прывезла дэлегацыя грэчаскага духавенства, узначаленая мітрапалітам Корфу Нектарыем. Мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава нагадаў 90-годдзе аўтакефаліі Польскай Праваслаўнай Царквы і стагоддзе бежанства. На Гары быў устаноўлены і асвечаны пяціметровы драўляны крыж у памяць бежанцаў. У будучыні з ахвяраванняў стане тут капліца ў іх гонар. Дзякуючы ўдзелу і выступленню прэзідэнта Анджэя Дуды свята набрала звышрэлігійны характар, падобна як два гады раней з-за прысутнасці Браніслава Камароўскага. Вернікі, з якімі мы гаварылі, засталіся вельмі ўражаныя ад прамовы прэзідэнта. Прэзідэнт пасля літургіі адказаў журналісту «Нівы» на два пытанні як адзінаму з дзясяткаў тых, што паявіліся на Грабарцы.

Мяркуецца, што ў гэтым годзе на свята Праабражэння Гасподняга прыбыло некалькі тысяч чалавек, як заўсёды не толькі з Падляшша, Польшчы, але і з-за яе межаў. Сярод іх была грузінка спадарыня Галіна са сваім 20-гадовым сынам Тыгрыем, ад дваццаці гадоў пражываючая ў Гданьску. Абое ўзялі з сабой для асвячэння яблыкі. Спадарыня Галіна:

— Мы прыбылі з Гданьска ў паломніцтве з усім прыходам. Адкуль я жыву ў Польшчы, для мяне, праваслаўнай, відавочнае, што я павінна быць тут. Для мяне гэта самае святое месца.

Сярод духавенства, якое збірала ахвяраванні на будаўніцтва новых храмаў (напрыклад, царквы Прамудрасці Божай у Варшаве) або на іх абнаўленне, над цудоўнай крынічкай мы сустрэліся з архімандрытам Гаўрыілам са скіта ў Адрынках:

— Гэта асабліваe месца, ласкавае, якое бурліць паўнатой духоўнага жыцця. Ласка Духа Святога спачывае на гэтым і праменіцца на ўсіх тых, хто прыходзіць сюды. А гэта тут самае важнае. Гэтая ласка сыдзе таксама на пана прэзідэнта, толькі павінен ён з ёю мудра абыходзіцца, каб выкарыстоўваць яе на карысць і бяспеку нашай краіны, не забываючы, што мы — славяне, для якіх найбольш важным з'яўляецца, каб аб'ядналіся і заставаліся ў адзінстве. Прыбываюць сюды дзясяткі тысяч людзей, а калі прывезлі сюды ікону Іверскай Багародзіцы з Гары Афон, мяркуецца, што было аж за сто дваццаць тысяч. Людзі кіруюцца ў гэтае месца каб атрымаць вылячэнне ад усіх сваіх праблем: жыццёвых, духоўных.

Прэзідэнт пакланіўся мошчам святіцеля


Мітрапаліт Сава вітае прэзідэнта Анджэя Дуду


Вернікі пакланяюцца мошчам святіцеля Спірыдона

Спірыдона, якія былі на Падляшшы ў сямі гарадах і мясцовасцях да 22 жніўня. На працягу многіх гадоў святыня знаходзілася ў Рыме. У час пантыфікату Яна Паўла II у 1984 годзе рука святога была афіцыйна перададзена праваслаўнай мітраполіі Корфу, дзе знаходзіцца сёння. Святы Спірыдон, паводле хрысціян, атрымаў ад Бога дар чытання думак людзей і тварэння цудаў. Вернікі моляцца яму ў сувязі з голадам, праблемамі з жыллём і працай, просяць аб аздараўленні. Прэзідэнт перад галоўнай літургіяй сказаў між іншым:

— Дзякую, што я магу ўдзельнічаць у гэтым свяце як прэзідэнт Рэчы Паспалітай, але і як Анджэй Дуда, што магу маліцца разам у святым месцы. Дзякую ў такі спосаб, таму што лічу, што прэзідэнт Польшчы як той, хто з'яўляецца вышэйшым прадстаўніком польскай дзяржавы, павінен паважаць гэтыя месцы і гэтыя традыцыі, якія важныя для Польшчы і польскіх грамадзян. Гэта, несумненна, такое важнае месца, месца вялікага рэлігійнага пакланення. І ці прэзідэнт з'яўляецца чалавекам няверуючым, ці веруючым, незалежна ад рэлігіі, якую вызнае, павінен тут са сваімі суграмадзянамі і іх гасцямі ў такіх вялікіх святах, важных падзеях, як сёння, удзельнічаць. А гэта з'яўляецца важнай падзеяй і для мяне — католіка, таму што вялікае свята Праабражэння Гасподняга супольнае для нас усіх.

Успамінаючы аб сваім удзеле ў святкаваннях на Грабарцы, прэзідэнт падкрэсліў, што яго прысутнасць таксама важная і таму, што сёлета адзначаецца стагоддзе бежанства, важнае асабліва для праваслаўных вернікаў:

— Гэта год стагоддзя бежанства, такога трагічнага для многіх сем'яў, нашчадкі якіх сёння стаяць тут, сярод нас. Выгнаннікі вярнуліся з гэтага драматычнага блукання ў свае дамы, часта на руіны, на папялішчы, але звязаныя з зямлёй, бацькаўшчынай, умацаваныя сваёй верай і такім чынам моцныя духам, змаглі аднавіць сваё існаванне, аднавіць гаспадаркі. І сёння іх нашчадкі моляцца тут з намі. Але маліцца мы таксама павінны за тых, якім вярнуцца не ўдалося, хто на гэтай страшнай дарозе выгнання, уцёкаў былі забітыя, а іх было вельмі шмат, таму што паводле асцярожных меркаванняў гісторыкаў было іх тры мільёны, але некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што гэта было пяць мільёнаў грамадзян, не толькі праваслаўныя вернікі. Сярод іх былі габрэі, католікі, але праваслаўных было абсалютна найбольш. У пэўным сэнсе гэта быў супольны лёс, супольны элемент.

Прэзідэнт таксама выказаў задавальненне, што ён можа быць на Грабарцы ў пятнаццатую гадавіну прыходу на яе цудатворнай іконы Іверскай Божай Маці і што можа пакланіцца мошчам святога Спірыдона — як адзначыў — дарагога вернікам абодвух веравызнанняў — Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла. Ён падкрэсліў:

**“ Калі прэзідэнт Польшчы мае нейкую задачу, гэта, безумоўна, адной з самых важных з'яўляецца тое, што ў польскім грамадстве, сярод грамадзян нашай краіны, незалежна ад іх нацыянальнасці, рэлігіі, ці з'яўляюцца яны веруючымі ці не, шукаць супольныя элементы, якія спрычыняюцца да таго, што мы ўяўляем сабой супольнасць. Я веру ў тое, што мы зможам пабудаваць гэтую супольнасць, незалежна ад адрозненняў. Нават калі ёсць адрозненні, найбольш важным з'яўляецца ўзаемная павага. Я тыя словы пашаны сёння з гэтага месца перадаказваю.**

Мітрапаліт Сава, вітаючы раней вернікаў і гасцей, а сярод іх прэзідэнта, падкрэсліў:

— Наша малітва як крылы анёла акружае Вас, спадар прэзідэнт, у Вашай службе (...). Духоўнае сэрца праваслаўя асабліва напоўнена любоўю да сваёй маці радзімы (...). У адзінстве веры і малітвы адчуваем духоўнае захапленне і вялікую радасць.

Спасылаючыся на стагоддзе бежанства прыгадаў:

— Тыя, хто вярнуўся ў свае разбураныя гнёзды, спрычыніліся да адраджэння рэлігійнага жыцця нашай Царквы, у выніку чаго 17 верасня 1925 года была абвешчана аўтакефалія, даючы магчымасць адраджэння царкоўнага жыцця. Сёння мы ўспамінаем у малітве лідараў гэтай будоўлі.

Адзначыў:

— Сённяшняе грамадства Еўропы мае патрэбу пастаяннага напаміну пра хрысціянскія каштоўнасці, умацаванне духоўнасці і хрысціянскай надзеі. Гэтага не зробяць мірскія людзі. Яны не гатовыя прынесці сябе ў ахвяру ў служэбе свету, для ўмацавання яго духам.

Мітрапаліт падараваў прэзідэнту ікону з вываяй Праабражэння Гасподняга, напісаную адной з манашак манастыра на Грабарцы, а прэзідэнт уручыў мітрапаліту аздоблены праваслаўны крыж. Пасля ўдзелу прэзідэнта (уступіў ён на пасаду 6 жніўня гэтага года) у літургіі, мы запыталіся ў яго, ці намервaецца ён, як і яго папярэднік, устанавіць пры сваёй установе дарадцу па нацыянальных і рэлігійных меншасцях (быў ім дэпутат Аляксандр Сасна). Адказаў коратка, запэўніваючы:

— Напэўна прыму гэта пад увагу.

А ці будзе арганізацыя штогадовыя сустрэчы з нацыянальнымі і рэлігійнымі меншасцямі, як Браніслаў Камароўскі, распытвалі мы:

— Калі будзе дарадчык, будуць і такія сустрэчы.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Версіі

У Беларусі чарговая доўгачакана-нечаканая сенсацыя. Палітвязні выйшлі на свабоду!!! Апошнія і ўсе разам. Хоць, папраўдзе гаворачы, гэта надта вельмі гучная і занадта смелая заява. Я б сказаў, што занадта самаўпэўненая. Ажно вуха на слых такога не ўспрымае ад яе дзёрзкасці і нечаканасці. Ды і наўрад ці можна аж настолькі ўпэўнена такое сцвярджаць. Лепш сказаць так, што беларускіх палітвязняў нечакана і ў поўным складзе выпусцілі з афіцыйных турмаў. А на свабоду ці не, гэта хай кожны вырашыць сам.

Такое асцярожнае і зыходзячы з сённяшняга жыццёвага досведу няўпэўненае выказванне будзе гучаць значна больш па-беларуску, а таксама ўлічваць час і месца дзе мы жывём, ды ў аб'ёмным разуменні значна больш стане адпавядаць рэчаіснасці. Ну, выпусцілі з астрога тых, каму там і так не месца. Для нас гэта ўжо сенсацыя. А як на іхняе вызваленае месца іншых папросяць, то гэта руцінныя будні і суровая рэчаіснасць сённяшняга дня. Як кажуць у народзе: „Святое месца пустым не бывае".

І чаго тут далёка хадзіць. Ужо разглядаюцца нейкія справы, заведзеныя за беларускія надпісы, за т.зв. графіці на сценах. Збудаваная гадамі машына пераследу не можа сабе дазволіць прастояў. Мусіць працаваць. А то чаго добрага пачне даваць збоі. Што тады?! Такую машыну нанава так хутка не адбудуеш. Таму трэба даглядаць тую, што ёсць.

Але як бы там не было, сем'і некалькіх нашых суайчыннікаў разам з сябрамі і сваякамі нарэшце атрымалі рэальную магчымасць убачыць і абняць сваіх блізкіх. Сустрэчы, кветкі, віншаванні, святочны стол, слёзы радасці... Шчаслівыя воклічы кшталту: „А ты чуў, той і той вярнуліся!". Ну, проста ўсё як пасля вайны... Вярнуліся! Жывымі! Дзякуй Богу!!!

А аналітыкі і даследчыкі, якія яшчэ ўчора не маглі прадбачыць такога кроку ўлад, крыху ачомаўшыся ад шоку, пачалі даследаваць прычыны і матывы такога шляхетнага ўчынку. Ну як жа ж. На ўсё мусіць быць прычына.

Галоўны матыў, які гучыць, гэта што ў рэжыму скончыліся грошы. Пра гэта пішуць ужо дваццаць год запар. Грошай, маўляў, больш няма і вось-вось усё ляснецца. Але ўсе гэтыя гады хлеб у крамах ды бульба ў сховішчах не канчаліся. А калі каму трэба, то і мяса мог набыць у якім хочаш выглядзе. Ды і гарэлачка заманліва падміргвала мноствам бліскучых этыкетак. І кожны раз мы думалі, што непадобна да поўнага краху. Ну, але калі разумныя людзі гэта сцвярджаюць, то можа гэтым разам і праўда. І зараз так думаем. Можа гэтым разам і праўда, што ў рэжыму скончыліся грошы, і, што самае важнае, ён больш не ведае дзе іх узяць. І наступны раз так будзем меркаваць, хоць добра ведаем з гісторыі, што калі канчаюцца грошы, то колькасць палітвязняў павялічваецца, а не наадварот. Ну, але ж мы ўнікальныя. У нас свой, унікальны шлях развіцця. У нас можа быць і наадварот. Хто яго ведае. Хутка пабачым.

Другая, менш распаўсюджаная, але значна больш інтрыгуючая версія, гэта што начальнік беларускай дзяржавы не на жарт напалохаўся агрэсіўнасці свайго ўсходняга калегі, і зараз не ведае куды ад яго ўцякаць. І што нават ненавісны яму Захад цяпер здаецца прытулкам, куды ў разе чаго можна і сігануць ад чэпкіх крамлёўскіх лап. Вось таму і трэба, нібыта дзеля наладжвання адносін з тым Захадам, выпусціць палітвязняў.

У прыхільнікаў гэтай тэорыі ёсць таксама слабое месца — яскрава акрэсленая ахілесавая пятка. Яны забыліся адну народную прымаўку, якая сцвярджае, што воран вораму вока не выдзеўбе. Ну, а ў астатнім тэорыя вельмі прывабная. Толькі непраўдзівая.

Ужо хутчэй верыцца ў тое, што галоўнаму прэтэндэнту на прэзідэнцкае крэсла стала вельмі сумна ад цяперашняй выбарчай кампаніі, дзе не толькі аніякай інтрыгі няма, але нават ніхто і не заклікае да яе. Вось ён і вырашыў унесці ў выбарчы працэс хоць нейкае ажыўленне.

А вось пра тое, што гэты трук з палітвязнямі да апошніх дэталяў узгоднены з Крамлём дзеля таго, каб выбары былі прызнаныя ўсімі, і тады можна будзе заваладаць Беларуссю ўсяго толькі па рашэнню цяпер ужо легітымнай беларускай улады, гаварыць адзінкі.

Як мала людзей так думае цяпер. Раней такіх было больш.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Фелікса, значыць, шчаслівая



Усё часцей аглядаю альбомы маёй бабулі; старыя альбомы з пажаўцелымі фотаздымкамі. Я гляджу на іх, не спяшаючыся. Часам гляджу на адну фатаграфію чвэрць, а то і больш, гадзіны. Хаця б на гэту: бабуля, стаяўшая на ганку. На фоне расцвітае язмін. Той самы язмін да сённяшняга аціняе ганак дома. Таго ж дома, у які я вярнуўся пасля многіх гадоў, і які быў пабудаваны маім прадзедам. Гэта ўсё той жа дом з ганкам і язмінам, у якім бабуля нарадзілася і дзе нарадзіўся мой бацька. Нішто ў ім не змянілася. Ну, мабыць, мэбля... Акрамя таго, ён меў меншыя вокны. Такія ў шэсць шыбак, зацемненыя драўлянымі аканіцамі. Пасля вайны дзед Пётр, бабулін муж, пашырыў аконныя праёмы, дом, як мужчына, вырас з гэтых аканіц, як маленькі хлопчык з кароткіх штонікаў. Усё ж, сёння я сумую па ягоным страчаным мінулым. Па гэтых хваліючых аканіцах і паху свежага хлеба на заквасцы. Пачынае муляць ягоная старасць, як ніколі нечарствеючы хлеб на хімічных узмацняльніках..

Усё гэта паказвае пажоўклая фатаграфія. Быццам бы ўяўляе сабой статычны малюнак. У маёй галаве, аднак, пракручваецца мастацкі фільм з відавочнай сюжэтнай лініяй, з заканчэннем пакуль невядомым. Важна ў ім смакаванне дэталяў — святлаценю, што кладзецца на траве, складаных фалдаў сукенкі бабулі, вядома, самай святочнай са святочных, у якую яна прыадзелася магчыма два-тры разы ў сваім жыцці. Па яе збянтэжанай міне мяркую, што гэта яна зрабіла ў спешцы, збянтэжаная незвычайнасцю моманту. Менавіта той момант быў... на ўсё жыццё. Самы прыгожы, але нязручны, так як тая святочная сукенка. Яе карункавы каўнерык няроўна расклаўся на плечы бабулі, яе полы ледзь загорнуты далоняй, абгорнутая занадта коса вакол таліі. Магчыма, да спешкі заклікаў нецярплівы фатограф... Ці маладзёны з суседства выдурняліся за плотам. Ля босых ступакоў бабулі гуляе кацянятка. Але бліскучыя чаравічкі трымае на згібе рукі, як пяшчотная маці нованароджанае дзіця. Тады, калі яна пазіравала для фатаграфіі, яна была яшчэ паненкай. Не ведала яна таксама, які кавалер заваюе яе сэрца. Радок пакаленняў спыніўся на той час у яе дзявочай нявіннасці. Толькі некалькі гадоў пасля мае нарадзіцца мой бацька. Гэта адбылося пару многіх гадоў да вайны, якая забрала назаўжды гісторыю Другой Рэчы Паспалітай. Тае поўнай спрэчак, але і надзеі. Потым наступіла Польская Народная Рэч Паспалітая, а пасля Трэцяя Рэч Паспалітая, якая скончылася, верагодна, з зыходам прэзідэнта Браніслава Камароўскага. Пра гэтую Чацвёртую — пакуль што, ніхто не згадвае. Але ці напэўна?

Пропаведзь чанстахоўскага мітрапаліта арцыбіскупа Вацлава Дэпо, выказаная на нядаўніх урачыстасцях на Яснай Гары, здаецца, гэтаму пярэчыць. Каталіцкі іерарх выказаў у ёй, у прыватнасці, перакананне, што ў Польшчы нельга раздзяляць справы Касцёла і нацыі. Больш за тое, называў «неметазгоднай і штучнай» спробу раздзяліць тое, што належыць да Касцёла, народа і дзяржавы. Ён забыўся, на жаль, вызначыць гэтую агульную, паводле яго слоў, частку. Ці меў ён на ўвазе Каталіцкі касцёл, каталіцкі народ і каталіцкую дзяржаву? Сапраўды, гэта меў ён на думцы, але не сказаў гэтага ўголас. Чацвёртая Рэч Паспалітая будуецца ў маўчанні. Або лепш: у недамоўцы. Калі гэта мае быць Рэч Паспалітая адной нацыі, адной рэлігіі, адной культуры, я ўжо пачынаю яе баяцца. Ці, можа я павінен з яе ўцякаць?

Тым не менш, не апяроджваўма фактаў, так як іх прыродай ёсць тое, што яны становяцца ўвесь час. Такім чынам, можна прыкмеціць тыя змены, якія ў іх адбываюцца, але толькі ў верагоднасці наступстваў. Толькі ў рэтраспектыве мы зможам ацаніць іх. Але гэта ўжо тады, калі пажаўцеюць фатаграфіі, якія мелі ўвекавечыць гэтую адбываючуюся рэальнасць. Толькі ці лічбавыя фатаграфіі калі-небудзь пажаўцеюць? Ці хто-небудзь гатовы схіліцца над імі і задумацца? Дык і хто носіць такое імя сёння, як мая бабуля Фелікса? Фелікса, значыць, Шчаслівая. Хто сёння шчаслівы?

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Чыквін у Сенат, Сасна ў Сейм

Дзень пасля таго як паказаўся папярэдні нумар «Нівы», падляшская Грамадзянская платформа перадала СМІ нечаканую інфармацыю (наш тыднёвік яе не атрымаў): войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк адмовіўся ад удзелу ў асенніх выбарах і зняў сваю кандыдатуру са спіска гэтай партыі за мандат сенатара ў пайднёвай акрузе (№ 61: Бельскі, Гайнаўскі, Сямятыцкі і Высока-Мазавецкі паветы). 19 жніўня, зараз пасля перадачы гэтай інфармацыі з офіса шэфа рэгіянальнай ГП дэпутата Роберта Тышкевіча, ён сам пазваніў мне і патлумачыў:

— Гэта індывідуальнае і неспадзяванае для мяне рашэнне Пятра Сэльвесюка. У нашай размове спадар Сэльвесюк матываваў рашэнне асабістымі прычынамі, не падаўшы дэталяў. Пасля яго адмаўлення ўсе варыянты магчымыя, нанава пачынаем кансультацыі на тэму выбарчай стратэгіі ў выбарах у Сенат у гэтай акрузе і ў гэты момант не магу выключыць ніякага варыянта (гаворка, між іншым, пра падтрымку кандыдата з-па-за спіска ГП — М. Х.). Асноўнай нашай мэтай з'яўляецца перамога над кандыдатам ПіС і здабыццё мандата асобай, якая гэтую акругу будзе прадстаўляць у Сенаце. Ёсць некалькі кандыдатур, якія можам разважаць.

З выказвання самога Пятра Сэльвесюка вынікала, што ён сваё канчатковае рашэнне прыняў беручы пад увагу просьбы жыхароў Арлянскай гміны (агулам пару соцень чалавек), якія прасілі, каб ён застаўся на пасадзе войта, а рашэнне аб яго ўдзеле ў выбарах у Сенат палічылі занадта паспешлівым.

Канчаткова ГП адназначна не падтрымала Яўгена Чыквіна але рашыла ў акрузе № 61 не вылучаць свайго кандыдата. Балатавацца ён будзе як незалежны кандыдат з падтрымкай СЛД, а ў прынцыпе Кааліцыі задзіночанай лявіцы (м.інш. з Тваім рухам Януша Палікота), якая стварылася перад маючымі адбыцца выбарамі. Гэтым самым паўторыцца сцэнарый чатырохгадовай даўнасці, калі незалежным кандыдатам вылучыўся ў гэтай акрузе з падтрымкай ГП і СЛД Уладзімеж Цімашэвіч.

Сваё рашэнне аб удзеле ў выбарах у Сенат як кандыдат з уласным выбарчым камітэтам Яўген Чыквін абвясціў у Бельску 24 жніўня, не паведамляючы аб гэтым «Ніву» (даведаліся мы аб гэтым неафіцыйна).

Пры нагодзе размовы з дэпутатам Тышкевічам я спытаўся ў яго, з-за якіх прычын падляшская ГП не паставіла Аляксандра Сасны на спісак у маючых адбыцца выбарах у Сейм (як пісаў я тыдзень таму, сам дэпутат Сасна не ўмеў на гэтае пытанне адназначна адказаць):

— Ёсць адна адзіная прычына: спадар Аляксандр Сасна ў папярэдніх выбарах прадстаўляў Форум меншасцей Падляшша. Цяпер ФМП змяніў сваю рэкамендацыю — для спадара Адама Мусюка. ФМП гэта наш кааліцыянт і згодна з кааліцыйнай дамовай мы, як ГП, павінны ўшанаваць рэкамендацыі гэтага асяроддзя ў парламенцкіх і самаўрадавых выбарах. Пацвярджаю, што мы прапанавалі спадару Сасне балатавацца ў Сенат, але ён не выказаў згоды, гэта значыць выказаў зацікаўленне, а пасля перадумаў.

Калі гэты нумар «Нівы» пайшоў у друк (24 жніўня), на наступны дзень мела аказацца, ці і з якой пазіцыі Аляксандр Сасна будзе балатавацца са спіска ПСЛ у Сейм, калі ўвогуле з гэтага спіска.

— Аднак я не выключаю ўдзелу ў выбарах у Сейм са спіска Задзіночанай лявіцы (СЛД прапануе яму трэцюю пазіцыю на спіску — М. Х.). Напэўна выключаю балатаванне са спіскаў правіцы, — дадаў дзень пасля тэлефона дэпутата Тышкевіча.

У сваю чаргу яшчэ два тыдні перад першым планаваным рашэннем падляшскай управы ПСЛ адзін з яе членаў Веслаў Жылінскі сказаў мне:

— Мы вельмі ахвотна бачылі б спадара Сасну на нашым спіску, таму што гэта вельмі сумленны чалавек. Калі б Аляксандр Сасна хадайнічаў за дэпутацкі мандат са спіска „людоўцаў", мусіў бы змагацца за галасы таксама беларускага, праваслаўнага электарата ў выбарах у Сейм на спіску ПСЛ з Мікалаем Яноўскім.

Усё паказвае на тое, што наймацнейшым канкурэнтам Яўгена Чыквіна ў змаганні за сенатарскае крэсла ў акрузе № 61 будзе прадстаўнік ПіС, які асабліва ў Высока-Мазавецкім і часткі Сямятыцкага паветаў можа разлічваць на рашучую падтрымку. Найчасцей пералічваецца прозвішча дэпутата цяперашняга склікання Яцка Багуцкага, былога высока-мазавецкага старосты і дзяржсакратара ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Аднак афіцыйную прэзентацыю сваіх спіскаў ПіС абвясціў на пачатак верасня, зараз перад канцом тэрміну паведамлення Дзяржаўнай выбарчай камісіі аб стварэнні выбарчых камітэтаў (7 верасня; камітэты маюць час на вылучэнне кандыдатаў на дэпутатаў і сенатараў да поўначы 15 верасня).

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**ТУТЭЙШЫЯ** — пад такім дэвізам дэбатавалі ў час сёлетняга, шаснаццатага беларускага «Трыялога» ў Крынках. Выпадкам адбылося гэта ў той час, калі ў Беларусі былі вызвалены палітычныя зняволеныя, у тым ліку Мікалай Статкевіч, адзін з кандыдатаў ад дэмакратычных сіл на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. Дыскутуючыя, аднак, пра гэта пакуль не ведалі. Як адзначалі арганізатары «Трыялога» з Фонду «Віла Сакрата» — яго старшыня, фатограф Павел Грэсь і сусветнай вядомасці мастак Лявон Тарасэвіч, гаворка была перш за ўсё аб спробе адказаць на пытанні нацыянальнай ідэнтычнасці, пачуцця нацыянальнай тоеснасці і фарміравання беларускай нацыянальнасці.



# МАГІЧНЫ ЦЭНТР СВЕТУ



Абвяшчаючы падзею (асноўная частка 22 жніўня), якая ў мадыфікаваным выглядзе з'яўляецца працягам «Беларускіх Трыялогаў», арганізаваных памерлым у 2013 годзе Сакратам Яновічам, арганізатары нагадалі, што калі ён якраз адбываўся, толькі што прайшло 93 гады з моманту ад заканчэння Янкам Купалам работы над драмай «Тутэйшыя». У 1922 годзе твор паказаўся ў часопісе «Полымя», і пасля двух гадоў быў пастаўлены на сцэне Дзяржаўнага беларускага тэатра. Чатыры гады таму, калі Сакрат Яновіч адзначаў 75-гадовы юбілей, акцёры Гродзенскага лялечнага тэатра прадставілі гэты спектакль у Крынках. Арганізатары «Трыялога» сцвердзілі: «Тутэйшыя» вельмі актуальныя ў цяперашні час. Гэта датычыць як Беларусі, так і Падляшша. «Тутэйшасць» гэта спрадвечная, беларуская праблема з самаідэнтыфікацыяй. Гэта труслівае нежаданне самаакрэсліцца. Калі раз пораз мяняюцца акупанты, дык мужыцкі розум падказвае не атаясамліваць сябе з ніводным з іх. «І нашым, і вашым» — да гэтага зводзіцца і сёння немудрагелістая хітраватасць беларусаў. Падлізацца адным і не пакрыўдзіць другіх. Сто гадоў таму, «тутэйшыя» на Падляшшы занадта выразна палічылі сябе «рускімі», іх напаткала трагедыя «бежанства». Калі нехта ў палове саракавых гадоў мінулага стагоддзя занадта адкрыта назваў сябе беларусам, яго напаткала альбо магло напаткаць перасяленне ў «савецкі рай», альбо расстрэл польскімі партызанамі. І дадаюць: «Тутэйшасць» — гэта выява няпоўнацэннасці і нізкай самаацэнкі. Гэта адгаворка і выкрутас разлічаны на непрадказальнасць рэакцыі з боку мацнейшых. Сёння на Беласточчыне безнацыянальная «тутэйшасць» абрала сабе ў якасці бяспечнай нейтральнасці «праваслаўнасць». Калі аказаліся тут і «праваслаўныя палякі», дык гэта бяспечная самаідэнтыфікацыя. Шмат каму гэтак падаецца. Аднак яны ніколі не сустракаліся з праваслаўнымі ні неграмі, ні эскімосамі. Адкуль ім ведаць, што ніводнае веравызнанне не адведзенае толькі для адной нацыі. Аднак існуе ў гэтым паняцці «тутэйшасці» нешта надзвычай станоўчае. Гэта канстатацыя аселасці канкрэтна ў гэтым месцы. Гэта міжвольная павага да месца свайго народжання, да сваёй «малой Радзімы», не абстрактнага, але свайго, спадчыннага, нават сакральнага як «зямля абяцаная» свайго месца на зямлі. «Тутэйшы» гэта інакш кажучы «аўтахтон», прадстаўнік першаснага, карэннага, аселага, мясцовага, лакальнага насельніцтва. Аўтахтоннае насельніцтва, гэта значыць «карэннае», не прыезджае, не чужое, але спрадвеку аселае на гэтай зямлі і асацыяванае якраз з гэтай зямлёю (...) Тутэйшасць з'яўляецца ідэальным апраўданнем, каб самому сабе адказаць на пытанне: хто я?.

## Тутэйшасць — нашасць

«Трыялог», падобна як і год таму, быў падзелены на тры часткі: культура, літаратура, палітыка. У першай прынялі ўдзел мастацтвазнаўца і куратар Анда Ротэнбэрг, даўні паплечнік Сакрата Яновіча і суарганізатар «Трыялогаў», галоўны рэдактар штомесячніка «Czasopis» Юры Хмялеўскі і беларускі мастак-графік, фатограф, паэт Міхал Анемпадыстаў, стваральнік ідэі і канцэпцы культавага музычнага праекта «Народны альбом» з 1997 г. У Каўказскай сінагозе мадэратарам дыскусій быў журналіст Радыё Рацыя і Тэлебачання Беласток, дакументаліст Мікола Ваўранюк. Пачаў ён гаворку ад тэзіса:

— Слова тутэйшасць успрымаецца намі негатыўна, як горб.

Анда Ротэнбэрг:

— Як вы кажаце пра горб, я здзіўлена, але я ў стане адкрыць спосаб мышлення людзей пражываючых тут, бо да з'яўлення Беларусі як Беларусі ў сэнсе дзяржавы, гэта быў народ, які меў створаную сваю культуру, але на працягу стагоддзяў ён належаў да іншых дзяржаў, хтосьці іншы кіраваў беларусамі. У той жа час культывуючы сваю нашасць, сваю ўласную культуру, мову, рэлігію, звычаі. Калі паглядзець на Польшчу і шырэй на Еўропу, то такіх нашасцей, як у Крынках, ёсць тысячы. Трэба свядомасці, каб зрабіць з гэтага каштоўнасць. Ёсць такія краіны, як Францыя, дзе кожны горад мае сваю ўласную нашасць і гэта ёсць адзінства, магчыма, таму, што яны не маюць комплексаў.

Міхал Анемпадыстаў:

— Пагранічча гэта неабавязкова тутэйшасць. Пагранічча з'яўляецца іншай з'явай. Гэта заўсёды крайняя частка чагосьці, культурная прыналежнасць да чагосьці, да адбытай самаідэнтыфікацыі. Тутэйшасць у сваю чаргу гэта самаідэнтыфікацыя прасторы, калі не мае значэння, да якой часткі групы прыналежыш: дзяржавы ці этнічнай групы, а прывязаны ты выключна да прасторы. Тутэйшасць заўсёды цэнтр сусвету. Цэнтр мястэчка з'яўляецца такім цэнтрам. З гэтага вынікаюць і плюсы, і мінусы. З аднаго боку, гэта местачковасць, правінцыйнасць. З іншага боку, гэта смеласць, бо, пакуль ты з'яўляецеся цэнтрам свету, можаш дазволіць сабе ўспрыманне ўсяго навокал: і Парыжа, і Лондана, і Варшавы, і Масквы са свайго пункту, са свайго мястэчка.

Падкрэсліў:

— Феномен тутэйшасці пачынае разглядацца тады, калі пачынае фармавацца нацыя.

Юры Хмялеўскі звярнуў увагу, што паняцце тутэйшасці абазначала зусім штосьці іншае сёння, чым у час напісання Янкам Купалам «Тутэйшых», калі фармавалася і — як сказаў — сфармавалася беларуская нацыя («мабыць, не столькі так моцна, як хацелі свядомыя беларусы») і ў час, калі з Сакратам Яновічам арганізаваў «Трыялогі», калі называнне сябе тутэйшым было пошукам або скрываннем сваёй тоеснасці:

— Тутэйшасць я разумею не як паняцце звязанае з самаідэнтыфікацыяй, нацыянальнасцю, але больш як месца, якое адчуваю душой. Гэтая магічная зямля, як для мяне Крынкі.

Тут Анда Ротэнберг уставіла:

— Функцыяй свабоды ёсць тое, што мы можам гаварыць аб уласнай ідэнтычнасці, нагадваць пра яе і ганарыцца ёю. Той факт, што ніхто нам не навязвае іншай ідэнтычнасці чым тая, у якой мы выраслі. Галоўнае, што ўзбагачаемся на гэтыя магічныя месцы, і людзі, якія выходзяць з гэтых месцаў, дзеляцца з намі гэтай тутэйшасцю. Пагранічча гэта, вядома, нешта іншае, чым тутэйшасць, але гэтая тутэйшасць, якую ўтварае пагранічча, з'яўляецца вынікам існавання пагранічча. Гэтыя магічныя месцы, як Крынкі, з'яўляюцца месцамі пагранічча, дзе каштоўнасць нараджаецца са змешвання некалькіх культур.

## Тутэйшасць — псеўдасвядомасць

Мікола Ваўранюк сцвярджаў:

— Праблема тутэйшасці ў выпадку Беларусі не састарылася ад часу Купалы, а адчуваў гэта вельмі моцна Сакрат Яновіч, які ахвотна дадаваў да слова тутэйшы, тутэйшасць — праклята, праклятая. Ён шкадаваў тых не ў поўнай меры сфармаваных беларусаў. У Польшчы зараз

■ Справа: Анда Ротэнбэрг, Юрка Хмялеўскі, Міхал Анемпадыстаў, Мікола Ваўранюк.

вельмі добрая атмасфера для ўсялякіх малых радзім, рэгіяналізмаў, але трэба таксама мець свядомасць, трэба ўмець убачыць, што гэта цэнтр свету.

Міхал Анемпадыстаў у дыскусіі спаслаўся на паняцце тутэйшасці ў кантэксце фармавання беларускага народа ў адносінах да сучаснай сітуацыі:

— Тутэйшасць у сэнсе недафармавання нацыянальнай ідэнтычнасці, то ў цяперашні час неканвенцыянальных войнаў, якія адбываюцца і на ўзроўні прапаганды ды інфармацыі, з'яўляецца адчувальнай кропкай, асновай для стварэння псеўдасвядомасці. Прыкладам «русский мир».

Лявон Тарасэвіч:

— Калі ёсць ужо сфармаваная нацыянальнасць, тутэйшасць гучыць інакш. Людзі ўсюды там, дзе так ёсць, вяртаюцца да тутэйшасці як да такой малой айчыны і ўзбагачаюць яе. Цікавіць мяне, як тутэйшасць можа быць станоўчым элементам нашага жыцця?

Юры Хмялеўскі:

— Для мяне тутэйшасць не была ніякім цяжарам. Наадварот, заўсёды я цягнуўся да месца, адкуль я родам. Гэта магчымасць для ўзбагачэння. Прыкладам, што тут для нас важнае месца, адкуль мы, з'яўляецца прафесар Тарасэвіч. Калі б не гэтае месца, з якога ён вырас, не быў бы тым кім ёсць.

У далейшай частцы дыскусіі, у сваю чаргу, журналіст Радыё Рацыя, айцец Канстанцін Бандарук сказаў — здавалася — не чакаючы, аднак, адказу:

— Тутэйшасць з'яўляецца эмбрыянальным элементам, зародкам нацыянальнасці. Скрываецца ў гэтым паняцці пэўная хітрасць, каб чарговыя акупанты не прынялі беларусаў за ворагаў. Яны навучыліся жыць у нейкім камфорце, не называючы сябе нацыяй. Што зрабіць, каб гэты эмбрыянальны стан ператварыўся ў жывы арганізм?

У літаратурнай частцы выступоўцамі былі беларускі пісьменнік, ураджэнец Гайнаўкі Міхал Андрасюк, аўтар нядаўна выдадзенай выдатнай кнігі «Крыжык», польскі пісьменнік народжаны ў Мазовіі і пражываючы ў Ярылаўцы Ян Камінскі і гродзенскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Віктар Сазонаў, аўтар славутых «Запісак кантрабандыста».

— З тутэйшасці можна зрабіць козыр, але можна заблытацца і дыскрэдытаваць, размахваючы тутэйшасцю, знікаючы ў шырокіх масах сусеціх абшчын, — пераканаўы Ян Камінскі.

— Тутэйшасць ператвараецца ў беларускасць, калі моцная беларуская эліта, — упэўнены Віктар Сазонаў.

— Беларускасць гэта такая планета з «Маленькага прынца», вакол якога растуць памаладкі баабаба, якія могуць яе разарваць, — у паэтычным тоне сказаў Міхал Андрасюк.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## У якой гміне жывецца найлепш?

Нараўчанская гміна як адзіная з Падляшша апынулася ў агульнапольскім рэйтынгу на вясковую гміну, у якой жывецца найлепш. Апынулася яна ў 2014 годзе на 14 месцы ў ліку трыццаці найлепшых гмін у краіне. У класіфікацыі прымаліся пад увагу наступныя катэгорыі: выдаткі на асяроддзе на аднаго жыхара (864,1зл., а ў пераможцы — гміны Жонсьня Лодзінскага ваяводства — 432,8), выдаткі на культуру на аднаго жыхара (273,8 зл., а ў Жонсьні — 254,9 зл.), сярэдні лік вучняў у адным класе пачатковай школы (21, а ў Жонсьні — 10,8), сярэдні лік вучняў у адным класе гімназіі (21, а ў Жонсьні — 16,3), лік асоб прыпадаючых на адну амбулаторыю (1000, а ў Жонсьні — 4 813). Цікава, што Жонсьня набрала 26,9 балаў, а Нараўка на 6,4 менш. Апошнія з ліку найлепшых гмін — Слупск і Устка Паморскага ваяводства атрымалі па 14,9 бала. Галоўным поспехам гміны Жонсьня, якой сядзіба змяшчаецца ў невялікай мясцовасці ў Паянчанскім павеце Лодзінскага ваяводства, з'яўляецца найбольшы падаткаплацельшчык — Польская энергетычная група — такі плацельшчык на тэрыторыі гміны гэта скарб і аграмадны шанц развою. У гміне Вялікая Няшаўка (другое месца), дзе сярэдні ўзрост старажылаў дасягае 81 года, тузом з'яўляецца найменшае беспрацоўе (3,1%, калі сярэдняе для вясковых гмін беспрацоўе складае больш за 10%) — тут павялічваецца лік жыхароў — на спакайнейшае жыццё ў Вялікай Няшаўцы перасяляюцца пенсіянеры з недалёкай Торуні. Гэтая гміна мае нават сучасны аквапарк! Як прыкмячаюць ацэншчыкі дасягненняў, у большасці вылучаных гмін функцыі бургамістраў ці войтаў выконваюць ад гадоў тыя самыя асобы. Гэта можа быць таксама, нейкай прыкметай задавальнення жыхароў з прынятай валадарамі канцэпцыі развою. **(лук)**

## Вечар пенсіянераў у рэстаране

У апошнюю нядзелю ліпеня гэтага года ў вялікім рэстаранеў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбылася сяброўская сустрэча пенсіянераў з Нараўкі, Ахрымоў, Бакавога, Лешукоў, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Масева, Міхнаўкі і Скупава. Разам з імі былі пенсіянеры з Гайнаўкі.



Удзельнікі песеннага конкурсу

Да танцаў падыгрывалі ды спявалі Пётр Скепка і Аня Карэтка. Конкурсы вяла Ядвіга Карпюк, старшыня гмінная арганізацыі Польскага саюза пенсіянераў. У песенным конкурсе выступілі Зіна Пацэвіч, Мікалай Варанецкі, Яўгенія Сабалеўская, Уладзімір Русак, Валянціна Галабурда, Юрый Каліноўскі і Вольга Сачко. Яны прыгожа спявалі беларускія, польскія, рускія і ўкраінскія песні. Усе прысутныя прыемна правялі вольны час. Усе натанцаваліся.

Варта дадаць, што ў жніўні гэтага года пенсіянеры паедуць на экскурсію шляхам цікавых аб'ектаў даўняй архітэктуры.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Праабражэнне ў Саках



Вельмі ўрачыста здаўна святкуецца Праабражэнне Гасподняе на горцы каля Сакоў Кляшчэлеўскай гміны, у царкве святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Паломнікі, якія ў гэты дзень дабіраюцца сюды на аўтамабілях, аўтобусах, веласіпедах ці пяшком, хочуць перамяніцца на лепшае. Яны таксама пакланяюцца іконе святога велікамучаніка Дзмітрыя і просяць у Яго дапамогі ў розных жыццёвых выпрабаваннях. У гэтым годзе многія вернікі маліліся перад мошчамі св. Спірыдона, якія былі прывезены ў Польшчу перад *Спасам*. На Падляшшы яны спачатку наведалі цэрквы ў Гайнаўцы і Кляшчэлях. Многія вернікі, прылажыўшыся да мошчаў св. Спірыдона ў кляшчэлеўскай царкве, адразу падаваліся ў царкву св. Дзмітрыя ў Саках, дзе пачыналася ўсяночная багаслужба, якая 18 жніўня распачала святкаванне Праабражэння Гасподняга.

19 жніўня на Дзмітрыеўскай горцы сабралася многа людзей. Маліліся яны ў царкве і на вялікай прыцаркоўнай плошчы, на якой распалажаны праваслаўныя могілкі вёскі Сакі. Многія паломнікі стаялі ў цяньку, паміж старымі і новымі крыжамі, хаваючыся ад сонца пад дрэвамі. На горцы маліліся бургамістр Кляшчэль Аляксандр Сяліцкі, мясцовыя радныя і солтысы. Калі вернікі прыехалі на святкаванне з малымі дзеткамі, ішлі купіць ім цацкі, якія прадаваліся далёка ад горкі. У мінулым прадаўцы цацак гандлявалі непасрэдна перад царкоўнай брамай, але тады выстралы з пісталетаў мяшалі ў малітве. Літургію ўзначалілі благачынны Кляшчэлеўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі ў саслужэнні святароў Кляшчэлеўскага і іншых дэканатаў, якія таксама спавядалі вернікаў.

Мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, выступаючы пасля хрэснага ходу і асвячэння яблык, груш і сліў, гаварыў пра свецкую Еўропу, якая адыходзіць ад хрысціянскіх традыцый. Благачынны звярнуў увагу на патрэбу большай, чым зараз, ахвы акружаючай нас прыроды, якую мы павінны захаваць для наступных пакаленняў. Прыгожай прыродай можна было захапляцца таксама на Дзмітрыеўскай горцы.

— Мы павінны ўзмацняцца ў веры ў Госпада. Добрым месцам для такога ўзмацнення з'яўляецца гэтая горка і Дзмітрыеўская царква, — заявіў мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, які прапанаваў прачытаць кніжку з апісаннем клінічнай смерці, праз якую праходзілі таксама некаторыя асобы, якія ён ведае.

Памаліцца на Дзмітрыеўскай горцы прыехалі некаторыя вернікі, якія раней ішлі ў паломніцтве на Гару Грабарку. У сам дзень святкавання рашыліся яны прыбыць на горку каля Сакоў, каб памаліцца перад іконай св. Дзмітрыя. Нядаўна ішло паломніцтва са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы ў Пачаеўскую лаўру і яно было намнога больш складаным, чым шэсце з Гайнаўкі на Грабарку, якое адбываецца штогод. Прыблізна два тыдні праваслаўныя вернікі з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Беластока ішлі ў Пачаеў, часта ў вялікую спёку, мала спаўшы ноччу і выходзячы на світанні, каб як найдаўжэй можна было перамяшчацца ў больш халодную пару дня. Бывала, што пілігрымы пераадольвалі нават да 50 кіламетраў у дзень, каб паспець на святкаванні ў гонар Пачаеўскай іконы Божай Маці, якія адбыліся 5 жніўня. Ва Украіне да паломніцтва з Польшчы далучыліся мясцовыя пілігрымы і ў выніку ў Пачаеўскую лаўру дайшло пад восемсот асоб. Некаторыя рашыліся ісці пяшком таксама ў Сакі, але гэта былі індывідуальныя рашэнні. Адны прыехалі маліцца сюды, бо штогод так робяць падчас святкавання Праабражэння Гасподняга, іншыя прыбылі на Дзмітрыеўскую горку ўпершыню. Перад літургіяй на горцы асвячалі ваду, якой паломнікі абмываліся і якую набіралі ў бутэлькі, каб завезці дамоў. Хаця няма традыцыі масава прыносіць на Дзмітрыеўскую горку крыжы, то ўсё ж такі некаторыя прыносяць іх сюды і ўкопваюць у зямлю. Самы вялікі драўляны крыж два гады таму быў прымацаваны каля царквы да бетоннай выліўкі і асвечаны ў прысутнасці дзяцей і ўнукаў Пракопа Івацяка з Вялікіх Пасечнікаў, якому пасля малітваў да велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ўдалося ўратавацца ад смерці ў 1946 годзе, якая спасцігла вазакоў з Белавежскай пушчы і наваколля. У знак удзячнасці Богу і велікамучаніку Дзмітрыю Пракоп паставіў на Дзмітрыеўскай горцы крыж. Калі крыж знішчыўся, яго сямейнікі паставілі новы, прыгожа аздоблены крыж, побач якога сёлета стаяў сын Пракопа, Павел Івацік, калі вернікі з хрэсным ходам абыходзілі царкву.

Пасля малітваў перад цудоўнай іконай св. Дзімітрыя Салунскага здараліся таксама іншыя цудоўныя здарэнні: хворыя асобы станавіліся здаровымі і вырашаліся розныя жыццёвыя цяжкасці. Згаданая ікона была вывезена ў бежанства, сотая гадавіна якога адзначаецца сёлета. Калі жыхары Сакоў вярталіся з Расіі дамоў, цягнік, на якім яны ехалі, сышоў з рэек. Нязнішчаным застаўся вагон, у якім была Дзмітрыеўская ікона, што мясцовыя жыхары палічылі цудоўным здарэннем, якое адбылося па хадайніцтве св. Дзмітрыя Салунскага ў Бога.

Царкоўным хорам падчас святкавання кіравала настаяцельніца Жаночага манаскага дома св. велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах манахіня Елізавета (Нічыпарук), сямейнікі якой загінулі падчас спалення вёскі Залешаны. Зараз у Залешанах будуецца дом для паломнікаў, з вялікай сталовай, за чым назірае манахіня Елізавета. Рамонтныя працы праводзяцца таксама ў Мужчынскім манастыры св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, якога дзейнасцю кіруе архімандрыт Цімафей (Саўчук), які пераняў гэтае паслушанне ад архімандрыта Варсанофія (Дарашкевіча). Мужчынскі манастыр св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага быў заснаваны ў 2001 годзе і спачатку дзейнічаў на прынцыпах манаскага дома. У мінулых гадах была грунтоўна адрамантаваная царква св. Дзмітрыя, якая красавалася на сонцы падчас святкавання.

Сакі — даўняя баярская вёска. Згодна вусным пераказам першую часоўню, а пасля царкву збудавалі на месцы, дзе мясцовы жыхар, які раней трапіў у турэцкі палон, прачнуўся з іконай святога Дзмітрыя Салунскага. Пасля малітваў да св. Дзмітрыя перад яго іконай быў ён цудоўна перанесены ў Сакі. Першая царква хутчэй за ўсё згарэла. Мяркуецца, што згарэла таксама другая царква, а цудоўная ікона св. велікамучаніка Дзмітрыя ацалела падчас абодвух пажараў. Лічыцца, што сённяшняя Дзмітрыеўская царква была ўзведзена ў канцы XVIII стагоддзя, а яе фундатарам быў шляхецкі род Сакоўскіх. Ад гэтага часу была яна многа разоў рамантаваная і разбудоўваная. Перадапошні рамонт адбыўся ў 1990 годзе, а ў 2009-2013 гадах царква была грунтоўна адрамантаваная ўсярэдзіне і звонку. Збіраюцца яшчэ сродкі на новы іканастас, заказаны ў Салуні ў Грэцыі, і на завяршэнне рамонтных работ. Сродкі на іканастас можна пералічваць на рахунак № 15 80630001 0070 0706 4663 0001, з прыпіскай «іканастас».

На шматлікія рамонтныя працы звярнуў увагу айцец Мікалай Келбашэўскі і падзякаваў архімандрыту Цімафею, мясцовым іераманахам і прыхаджанам за актыўнасць падчас рамонту царквы і манаскага дома. Сам настаяцель манастыра, архімандрыт Цімафей, падзякаваў святарам і шматлікім вернікам за супольныя малітвы і запрасіў на пачастунак з гарачым супам.

Многа вернікаў збіраецца ў Дзмітрыеўскай царкве ў першую нядзелю кожнага месяца, калі служыцца літургія і чытаецца акафіст перад іконай св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага.

— У першую нядзелю месяца ў нашай царкве збіраецца многа прыезджых, якія моляцца і пакідаюць запіскі з просьбай маліцца за здароўе. А ў апошнюю нядзелю месяца служыцца літургія і чытаецца акафіст да велікамучаніцы Кацярыны ў царкве ў Манаскім доме ў Залешанах, — патлумачыла мясцовая прыхаджанка. — Тады, у канцы месяца, адны прыхаджане Дзмітрыеўскай парафіі моляцца ў царкве ў Саках, а другія ў царкве ў Залешанах.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# У Крынкі? Там па-беларуску гаворыць!

Сказалі, што па вуліцы Сакольскай у Крынках жыве стогадовая жанчына. Дакладнага адрасу не ведаю. Ніхто не ведае, асабліва шматлікая тут „навалач". Выпадкова напатканы аўтахтон указвае мне дарогу.

— Гэта на самам канцы, — тлумачыць. — пабачыце чорны, жалезны плот з хатай у глыбіні панадворка.

З галоўнай, адрамантаванай шашы з'язджаю на палявую быццам вясковую дарогу — апошні прамежак вуліцы Сакольскай. У шнурку цеснай, драўлянай забудовы стараюся знайсці найстарэйшую хатку найстарэйшай жанчыны.

Набліжаюся да канца той жа вуліцы і са здзіўленнем гляджу на вялікі муравана-жалезны плот, за якім вялікі, выкладзены цэментнай брусчаткай панадворак, а на ім — вялікі цагляна-шкляны палац. „Не можа быць, — думаю сабе, — гэта напэўна памылка. Такой хаты нават у Лондане я не бачыла, хіба што ў мініяцюры". Суседзі з суседніх хат згодна сцвярджаюць, што вось у гэтым палацы жыве найстарэйшая жанчына, хаця самі ніколі не былі ўсярэдзіне. Сустракае мяне служанка. Цешыцца, што іду наведаць яе падапечную. Затое не цешыцца гаспадыня палаца. Няўмела падпіраю каштоўную сцяну каштоўна абсталяванага пакоя. Чую, што нехта ўжо гаварыў з бабуляй і напэўна магу пакарыстацца гатовымі занатоўкамі.

— Не люблю шклографаваць, — адказваю коратка. І вось збаўленне. Служанка абвяшчае, што пані гатовая мяне прыняць. Уваходжу ў іншы свет. Маленькая, далікатна кажучы, зусім не палацавая, кухня з патрабуючымі рамонту сценамі, нямоднай мэбляй і ветлівай, яшчэ добра выглядаючай бабуляй. Ад некалькіх гадоў прыкавана яна да крэсла. Глядзіць праз акно на голы, бетонны, надта сумны панадворак.

— Цяжка несці сваю старасць, але дзякую Богу за кожны пражыты дзень, — гаворыць з ласкавай усмешкай.

Алена Бомбрых нарадзілася 7 кастрычніка 1912 года ў падсакольскіх Геніюшах у сям'і са шляхецкімі традыцыямі. У Крынках жыве з 1934 года. Бацька не хацеў яе сюды аддаваць.

— У Крынкі? Там па-прасту гавораць! — абураўся.

— Я навучылася гэтай мове. Яна — простая, быццам беларуская, але якая яна там беларуская. Крынскі цесць — Адам Кулакоўскі шчыра папрасіў прабачэння, яму цяжка было гаварыць па-польску. Кніжачку да набажэнстваў усё-такі чытаў па-польску, і ў касцёл хадзіў. Хрысцілі яго ў час Студзеньскага паўстання ў Гародні. Там быў ксёндз, які не пабаяўся ссылкі ў Сібір. Стары быў, маўляў, што няшмат жыцця яму засталося.

Маці спадарыні Алены паходзіла з падсакольскай, літоўскай шляхты па прозвішчы Шкіланць. Жылі яны на хутары Пад'ялоўка. У сувязі з актыўным удзелам у Студзеньскім паўстанні былі вымушаны скрывацца пад зменeным прозвішчам. Прабабуля спадарыні Алены была яшчэ Шкіланць, але бабуля Валерыя ўжо Лукашэвіч. Валерыя выйшла замуж на 30 гектараў кепскай, пясчанай зямлі ў падкрынскай Нетупе ў сям'ю Малішэўскіх. Муж неўзабаве памёр, пакідаючы яе з маленькай дачкой і цесцем. Быў адзіным сынам-спадчыннікам. Лінія Малішэўскіх закончылася. Дочкі не лічыліся, ім гаспадарак не аддавалі. Цесць трымаў вуллі, мёду было аж надта, толькі хлеба з гэтых пясчаных гектараў не ставала.

Але перш за ўсё не хапала гаспадара. У Нетупе паявіўся ляснік-халасцяк з Чорнай-Вёскі-Касцельнай — Казімеж Гіштаровіч. Надта спадабаўся сачыўшаму за ім ад нейкага часу Малішэўскаму.



Маці Алены – Браніслава з Гіштаровічаў Руткоўская (1886-1977), здымак з 1910 г.



Бацька Алены – Юзэф Руткоўскі



Спадарыня Алена Бомбрых з дому Руткоўская ў 1940-х гадах

— Нам трэба гаспадара, — звярнуўся да аўдавелай сынавой. — Выйдзеш замуж за Гіштаровіча.

Парадачны, але невялікай прыгожасці мужчына, не спадабаўся Валерыі.

— Не выйду за яго, — адказала.

— Рабі, што хочаш. А гаспадаром тут будзе ён, — цвёрда вырашыў цесць.

Што ж было рабіць, дзе падзецца з дзіцём на руках. Да брата не пойдзе, там жа братавая. Выйшла Валерыя за нелюбімага лесніка. Дачка ад першага мужа хутка памерла. Потым пачалі нараджацца мужчыны — Гіштаровічы, а таксама маці спадарыні Алены — Браніслава, ахрышчаная яшчэ ў старым, драўляным, крынскім касцёле. Тым часам Казімеж Гіштаровіч — уплывовы ляснік аддаў надляснічтву паднетупскія, неўраджайныя гектары ўзамен за надзел у Сасновіку, што ў Шудзялаўскай гміне. На выкарчаваным полі пасярод лясных ручаёў паставіў вялікую, шматпакаёвую хату з ганкам. Там гадавалася іх першая ўнучка — спадарыня Алена. Два гады пасля яе нараджэння выбухла расійска-нямецкая вайна. Па саснавіцкім лесе неслася рэха гармат, якія стралялі гэн, у Асавецкай крэпасці.

— Яны — немцы, а мы — браты-славяне, — маўлялі на хвалі расійска-польскай адлігі расійскія чыноўнікі. Так напалохалі немцамі, што не толькі праваслаўныя, але нават некаторыя каталіцкія ксяндзы падаліся ў бежанства. Да выезду падрыхтавалася таксама каталіцкая сям'я ў Геніюшах. Гіштаровічы ўсё-такі рашылі застацца. Іх сыноў Аўрэліяна і Валярыяна забралі ў расійскую армію. Аўрэлія́н папаў на пазіцыю пад Кіевам. У хату вярнуўся цэлы і здаровы ў 1918 годзе.

— Помню незнаёмага мужчыну, які хоча ўзяць мяне на рукі, а я ўцякаю. Ён жа для мяне быў чужы, — гаворыць пра першую сустрэчу з вярнуўшымся з баёў дзядзькам спадарыня Алена.

Малодшы Валярыян — унтэр-афіцэр, дабраўся дахаты тры гады пазней. Пражыў рэвалюцыю, нагледзеўся на ўсё. Ішоў з вінтоўкай, дзякуючы якой пражыў.

— У хату ўвайшоў незнаёмы бядняк, такі знішчаны, што родная маці яго не пазнала, — успамінае са слязамі. — Хварэў, хутка памёр.

Ваенным абавязкам малой Алены было стаяць на ганку і глядзець, ці немцы не едуць. Убачыўшы іх на гарызонце, клікала дзеда, а той хаваў збожжа. Зерне трымалі паміж дошкамі падвойнай сцяны ў хатнім калідоры. Каб ніхто нічога не прыўважыў, дастаткова было толькі прыбіць дошку па верху шчыліны ў сцяне. Нямецкія інспектары любілі заязджаць да Гіштаровічаў. Надта смакавалі ім бабуліны літоўскія кумпякі. Прывозілі з сабой жоўты цукар — падарунак малой Алене. Сваякі смяяліся, што фліртавала з немцамі. Калі камісар схапіў яе за руку сказала: „А вы што адразу за руку, вам не сорамна?".

— У бежанства падаліся праваслаўныя. Надта давяралі цару, таму паехалі. Закахаліся ў цара, па сёння яго кахаюць, нават святым зрабілі. Для іх каталікі гэта лаціннікі, іншая раса. Здаецца, усё-такі яны лічаць сябе беларусамі.

Звёз іх назад Пілсудскі, гэта ён сарганізаваў ім чыгуначны транспарт. Вярнуліся ў свае, крыху запушчаныя хаты. Тут падымалася доўгачаканая Польшча, прадумана, канкрэтна, на ўзроўні, з вялікім удзелам цэлага грамадства. Астатнія сядзелі ціха ў сваіх камуністычных арганізацыях. Царквы ніхто нікому не зачыняў. Добра ім жылося, не так як нам за цара.

Кулакоўскія — цесляры. Пасля вяртання бежанцаў мелі шмат працы. Праўда, вёскі не былі спалены, але пакінутыя на некалькі гадоў хаты і гаспадарчыя будынкі патрабавалі рамонту. Стаўлялі яны таксама царкву грыбоўскаму самазванаму прароку. Свякроў спадарыні Алены, якая разам з імі туды ездзіла, каб збіраць абрэзкі дрэва на апал, успамінала: „Ідзе баба і крычыць: «Ходыта, ходыта, Ілья будэ благословыты». Думалі, што царква з-пад зямлі выйшла. Ілья тлумачыў, што прадаў зямлю і за гэтыя грошы пабудаваў царкву. Ён жа праўду сказаў. Ажно з Валыні туды ішлі. Такая простая праваслаўная вера. Што ім не скажаш, ва ўсё паверац. Каталікі не такія. Але на канец і сваёй веры трапіў ён у няміласць. Сказалі ісці ў манахі, ніякіх бабаў ні алкаголю. Але любіў і адно, і другое. Прыйшлі з крыжам, хацелі ўкрыжаваць. Уцёк.Тады ў крынскім касцёле служыў народжаны ў Янове за Саколкай берастavіцкі дэкан Юзэф Марцінкевіч. Ілья абяцаў яму перадаць царкву католікам. Складаная справа як гэта зрабіць, што падумаюць праваслаўныя, якія пакінулі тут, бывала, цэлую сваю маёмасць. Ксёндз Марцінкевіч знайшоў жанчыну, якая выкупіла царкву, а пасля прадала касцёлу. Гэта было ўжо за прабоства ксяндза Зінкевіча, які прыехаў да нас з рускіх парафій па другім баку мяжы. У касцёле расказваў пра новыя харугвы і іншае касцельнае абсталяванне, ахвяраванае новаму касцёлу. Спадарыня Алена прысутнічала ў яго асвячэнні ў 1938 годзе. Праваслаўныя сталі за каменным плотам могільніка. У пропаведзі ксёндз Трацяк сказаў ім, што браты-хрысціяне павінны жыць у добрых адносінах.

Праз год прыйшлі саветы і аддалі царкву праваслаўным. Царкоўныя брацтвы павыносілі з царквы свежа ахвяраваныя каталіцкія харугвы. Ілью арыштавалі, абвозілі па наваколлі, з'едліва гаворачы: «Вось так выглядае польскі святар».

Іаанна ЧАБАН

## Супрасльская дэмаграфія — цяпер і дзесяць гадоў таму

Зараз у Супрасльскай гміне (Беластоцкі павет) пражывае 14 258 чалавек у трыццаці мясцовасцях. Найбольшыя з іх — горад Супрасль налічвае 4 557 асоб, Грабаўка — 3 268, Засцянкі — 2 400 ды Сабалева — 1 329.

Да вялікіх вёсак належаць: Агароднічкі — 751 чалавек, Каракулі — 555, Саўляны — 374, Цяснэ — 328 і Генрыкова — 317. Сярод малых вёсачак — 74 жыхароў налічвае Целічанка і 41 — Сакалда ды да 30 асоб налічваюць ажно сямнаццаць мясцовасцей. Перасталі існаваць дзве мясцовасці — Пячонка-Каленія і Зялёна. Дзве асобы пражываюць у Здроях-Каленіі і ў Садовым Стоку.

На працягу мінулых дзесяці гадоў у Супрасльскай гміне прыбыло 950 жыхароў. Найбольш іх прыбыло ў Грабаўцы — 255, Сабалеве — 196, Засцянках — 178, Агароднічках — 92, Цясным — 67, Саўлянах — 54, Генрыкове — 33, Каракулях — 24 і ў самой Супраслі — 23.

Па двое людзей прыбыло на пастаяннае жыхарства ў Целічанцы, Казлах-Каленіі, Маёўцы і Суражкове. Паменшаў лік жыхароў у Ялоўцы, Красным, Лазнях, Падлазнях, Падсакалдзе і Сакалдзе — на дзве-тры асобы. Не было дэмаграфічных змен у Красным Лесе.

У мінулым годзе ў Супрасльскай гміне нарадзіліся 93 дзяцей і памерлі 65 асоб.

## Летам у Супраслі

Зараз прыгожа выглядае невялікі ціхі і прыемны горад Супрасль (Беластоцкі павет). З ахвотай хочацца прайсці па вуліцах Пілсудскага, 3 Мая, Школьнай і Агародавай. Гэтыя вуліцы ўпрыгожваюць летнія кветкі, між іншым, аксамікі, рамонкі, гваздзікі, герані, браткі (чырвоныя, белыя, жоўтыя і сінія) ды ружы. Усіх красак — дзевяць відаў.

Яны растуць на клумбах ды ў шматлікіх кветніцах. Прыгожыя арыгінальныя драўляныя кветніцы стаяць паабапал вуліцы Пілсудскага (іх больш за 20). Тут найбольш кветак. Яны яшчэ і ў навейшым цэнтральным міні-скверыку (заснаваным у 2009 годзе), і перад касцёлам. На вуліцы Школьнай поўна аранжавых гваздзік у вазонах. Шмат кветак перад будынкам Гарадской управы па вуліцы Агародавай.

У горадзе, які налічвае 4,5 тысячы жыхароў, над чароўнай завілістай ракой Супрасль кветкі радуюць зрок прахожых. Яны дораць людзям лепшы настрой, развесяляюць сваёй прыгажосцю.

## Веласіпедны шлях

Усходні веласіпедны шлях «Green Velo» вядзе, між іншым, праз Падляшскае ваяводства. У нашым ваяводстве мае ён даўжыню ў 590 кіламетраў. Шлях бяжыць праз Сувалкі, Бебжанскі нацыянальны парк, Ганёндз, Тыкоцін, Нарвянскі нацыянальны парк, Беласток, Супрасль, Семяноўку, Белавежскі нацыянальны парк, Гайнаўку, Мельнік і іншыя прыгожыя мясціны Беласточчыны.

Зараз на трасе асноўваюць месцы абслугоўвання веласіпедыстаў (МАВ). У такім месцы можна, між іншым, адрамантаваць — маючы з сабой запчасці і веласіпедныя ключы — веласіпед . Тут пад дашкам можна схавацца перад даждом, прысесці і адпачыць на лавачцы, падсілкавацца забраным з сабой у дарогу бутэрбродам, можна таксама расквасці грыль (ёсць тут для гэтага неабходнае абсталяванне).

Адно такое зацішнае прыстанішча на веласіпедным шляху пабудавалі ў вёсцы Лешукі Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет). Варта дадаць, што тут побач МАВ — на другім баку вуліцы — знаходзіцца прадуктовая крама.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

## ЛІСІЦА І ЖУРАВЕЛЬ
*(руская казка)*

Жылі-былі на свеце лісіца і журавель. Лісіца жыла ў лесе, а журавель на балоце. Аднойчы журавель завітаў у госці да суседкі. Лісіца яго прывітала і сказала:

— Сёння на абед будзе каша. Калі ласка, частуйся, даражэнькі сусед!

Яна паставіла на зямлі талерку з кашай. А ў жураўля вельмі доўгая дзюба. Ён спрабаваў есці, аднак ніяк у яго не атрымлівалася. Лісіца тым часам не зважала на госця, раз-раз ды з'ела ўсю кашу і прыбрала талерку. Падзякаваў журавель і вярнуўся галодны дамоў.

На наступны дзень прыйшла лісіца ў госці да жураўля. Ён паставіў збан з малаком і сказаў:

— У мяне на абед малачко.Частуйся, мілая суседка.

Збан быў высокі і меў вельмі вузкую шыйку. Лісіца як не старалася, не змагла з яго напіцца. Гэта абурыла яе. А журавель памахаў галавой і сказаў ёй:

— Паслухай, мілая, ты ж сама мяне падобна ўгашчала. Чаму цяпер табе не падабаецца?

***(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***



### *Малітва*

Вера, вера.
Ах, ты вера.
Што ты робіш з людзьмі?

Міхась верыць
у свае сілы
і заўсёды
разлічвае на сябе.

Маня верыць
у сепергероя,
які яе
выратуе ў ліхую гадзіну.

А я проста
веру ў Бога.
Ён заўсёды са мной.
Думкі, мары... гэта Ён.

Вера. Вера.
Ах, ты вера.
Дай Божа, каб ты была
і жыла ў кожнай душы!
У кожным чалавеку
Ад народзінаў да смерці!

***Наталля Васько***
*— „Сустрачанскія навіны"*

# КОНКУРС
## на заканчэнне канікулаў!

Сябры! Вашай увазе прапануем конкурс звязаны з літаратурай Падляшша. На 29 Сустрэчах „Зоркі" мы мелі гонар пазнаёміцца з пісьменнікам Міхасём Андрасюком. Ён прачытаў нам фрагмент сваёй навейшай кнігі «Крыжык», якая толькі што мела выйсці з друку. Зараз кніжка ляжыць на нашым рэдакцыйным стале. Вы таксама можаце прыдбаць гэтую каларытную, насычаную мясцовымі гісторыямі і гумарам кніжку, напісаную на высмакаванай літаратурнай мове («Крыжык» — на польскай мове). Трэба выбраць адзін правільны адказ:

**1. Як называлася кніжка пра сельскагаспадарчыя справы, якую з размахам у часы дзяцінства прачытаў Міхась Андрасюк:**

**а) «Гадоўля трусоў»,**
**б) «Uprawa buraków»,**
**в) «Каса ці камбайн?».**

Адказы трэба даслаць да 15 верасня г.г. Іх можна дасылаць па электроннай пошце або традыцыйным метадам. Аўтары правільных адказаў прымуць удзел у жараб'ёўцы. Падказка: адказ знойдзеце ў зорчыных публікацыях, прысвечаных Міхасю Андрасюку, якія друкаваліся ў час апошніх канікулаў!

** Кніжкі падарыў нам выдавец:*
*Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь.*




## УВАГА КОНКУРС!
## № 35-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 6 верасня 2015 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Нішто не ляцела,**
**Нішто не спужала,**
**А ўся затрымцела,**
**А ўся задрыжала.**
**А....**

**Віселі на градцы**
**Сакаўныя братцы**
**Доўгія, шурпатыя,**
**Вітамінаў шмат у іх.**
**А.....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 30-15: рамонак, вецер. Узнагароду, кніжу пра птушак «Dziuplaki», выйграў Куба Алексяюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Што думае пра нас старое дрэва?

## *Інтэрв'ю з сасной, якая расце на панадворку ў пансіянаце «Бора-здруй»*



**„Шпакоўня": — *Што скажаце нам пра людзей?***

**Сасна:** — Людзі, як людзі. Ёсць добрыя, ёсць дрэнныя. У кожнага чалавека сэрца. Аднойчы прыйшоў чалавек і хацеў мяне парэзаць на дошкі. Аднак у маёй абароне выступіў стары чалавек і я асталася ў жывых.

**Ш: — *Ці Вам не мяшае шпакоўня, якая прыгвазданая да Вашых плячэй?***

**С:** — Птушкі прыносяць мне навіны і звесткі пра лес.

**Ш: — *А дождж і сонца?***

**С:** — Дождж уталяе смагу, а сонца дае радасць. Нічога мне больш не трэба.

**Ш: — *Як выглядаюць Вашы кантакты з клуняй, якая стаіць побач?***

**С:** — Яна старэйшая за мяне, спачатку яна наракала, але праз гэта я навучылася жыцця.

**Ш: — *Вы тут адзінокая, навокал адны бярозы. Ці вам не сумна?***

**С:** — Ну, сумна, сумна! Сапраўды я адзінокая. Праз гэта я адчуваю сябе нетутэйшай.

**Ш: — *Вы пра што? Вы ж тутэйшае дрэва. А гэты надпіс «Бацькаўшчына», які вас аздабляе, гэта ж вылучэнне!***

**С:** — Згодна, згодна! Гаспадар любіць мяне. Ён некалькі разоў спаў пад маімі галінкамі.

**Ш: — *У Вас шмат паламаных галінак. Што здарылася?***

**С:** — Гэта было 70 гадоў таму назад, у час вайны. У час адбстрэлу шмат маіх галін было прастрэленых і абламаных.

**Ш: — *А чаму Вашыя галінкі пахіленыя на ўсход? Згодна з навукай, яны павінны быць накіраваныя ў бок сонца?***

**С:** — Гэта ў пэўнай ступені праўда. Аднак мая старая бабуля гаварыла, што яшчэ перад вялікім патопам многа дрэў загінула з рук людзей. Я пахілілася на ўсход, каб аддаць ім паклон.

**Ш: — *Лес шуміць і шуміць. Часам думаем, што ён размаўляе. Ці гэта размова, ці проста вецер?***

**С:** — Людзям чамусьці заўсёды трэба ведаць усе тайны лесу. Скажу так — лясны пошум гэта не вецер, гэта песні, якія плывуць ад душы лесу.

**Ш: — *Пра што гэтыя песні?***

**С:** — Лясныя песні гавораць пра тое, што ўсе дрэвы калісьці застынуць, а побач з намі застынуць таксама людзі.

**Ш: — *Гэта гучыць як прывід катастрофы?***

**С:** — Катастрофа? Яна адбываецца кожны дзень, калі бяздумна рубім дрэвы і знішчаем прыроду.

**Ш: — *Дзякуем за размову.***

**С:** — Я таксама дзякую, мне падабаецца, што размаўляеце са мной па-беларуску!

*Альжбета ХАРКЕВІЧ*
*Новая Лука, ПШ у Нараўцы*

### *Крынічка*

*Села я раз ля крыніцы*
*невялікая, ціхая, спакойная.*
*Але ўсе ўспаміны, думкі*
*расплыліся ў адну хвіліну.*

*Цішыня.*

*Чуваць далікатны шум вады.*
*Я забылася пра ўвесь свет.*

*Адна рэч, якая лічылася,*
*Гэта святы спакой,*
*а ён як бальзам*
*на растрывожаную душу*
*і збалелае сэрца.*

*Юстына Марчук*

### *Птушка*

*Раскажы мне, птушка,*
*Як узляцець?*
*Як убачыць зоркі бліскучыя на небе?*

*Раскажы мне, птушка,*
*Як жыць?*
*Як не быць галоднай?*
*Як пракарміць пакінутых дзяцей?*

*Раскажы мне, птушка,*
*Як дапамагаць іншым?*
*Як даць надзею, быць чалавекам?*

*Навучы мяне, птушка,*
*Як кахаць?*
*Кахаць цэлым сэрцам?*



# Польска-беларуская крыжаванка № 35-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31:** Абрыс, Менск, атаман, матэматыка, капец, нітка, сталь, ара. Не, Наташа, стэп, камень, маці, брат, нырка, ар, сілач.

Узнагароды, каляраванку з раслінамі, занесенымі ў чырвоную кнігу, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Габец** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Spadochroniarz
As
Papryka
Cesarz
Uderzenie
Port
Klepisko
Wiedza
Karp
Cena
Bo
Pępek
Wiatr
Ob
Ogrodzenie
Nos
Tron
Wrzos
Donaryt
Rycerz
As

# Гарадок расспяваны больш за 60 гадоў

Ірэна Паўлючук спявае ў ім з самага пачатку: **„Мы — адзін з першых непрафесійных калектываў беларускай песні, які з'явіўся на Падляшшы”.**

— 8 сакавіка 2014 г. прайшло шэсцьдзесят гадоў ад заснавання рэгіянальнага харавога калектыву з Гарадка. У аматарскім мастацкім руху гэта значны ўзрост. Кожны, хто ўступіў у кантакт з сапраўдным запалам фарміравання сваіх інтарэсаў, добра ведае, колькі моцнай волі, настойлівасці і асабістых ахвяр патрабуе мастацтва ў самадзейнасці. Трэба пераадолець шэраг арганізацыйных цяжкасцей, збалансаваць сямейныя і працоўныя абавязкі, і прысвяціць свой асабісты час. У сваю чаргу, калектыў хваляць за жывучасць і даўгавечнасць, а таксама высокія мастацкія ўмеласці. Слухачы ўдзячныя за моманты радасці і прыклад мадэлі для пераймання, — адзначае Вера Тарасэвіч, збіральніца памятак з гісторыі калектыву, аўтарка альбома «Легенда гарадоцкай культуры — „Расспяваны Гарадок” 1954-2014». — Годны юбіляр — вядомы гарадоцкі харавы калектыў «Расспяваны Гарадок» з'яўляецца адным з найстарэйшых, самых лепшых і самых актыўных калектываў мастацкай самадзейнасці беларускай меншасці ў Польшчы. Без заснавальніцы і шматгадовай шляхетнай дамы «Расспяванага Гарадка» — Ніны Мушынскай — і прадаўжальніцы яе працы — Ніны Цыванюк — не было б сёння ўспамінаў і падвядзення вынікаў. Неабходна адзначыць вялікую ролю музыкаў, якія на працягу многіх гадоў супрацоўнічалі з гуртом — Сцяпана Копы і, у апошні час, Віктара Маланчыка. Не ўдасца напісаць аб Ніне Мушынскай, каб не ўзнік аповед аб рэгіянальным жаночым харавым калектыве з Гарадка. Калектыў, які яна заснавала, быў добрым кавалкам яе жыцця, а сама Мушынская — гэта няўтомная аніматарка і ініцыятарка гарадоцкага культурнага высілку пасляваенных гадоў.




Першапачаткова калектыў называўся «Гарадок». Жанчыны выконвалі творы на беларускай, польскай, рускай, украінскай мовах. Ад самага пачатку здабывалі поспехі. 8 сакавіка 1954 года сарганізавана была вечарына-акадэмія з нагоды Дня жанчын, на якой група афіцыйна выступіла першы раз.

З успамінаў Ніны Мушынскай: *На адным з чацвярговых вечароў у студзені 1954 года я прыгадала жанчынам, што не за гарамі 8 сакавіка — Міжнародны дзень жанчын. Трэба было б сарганізаваць вечарыну з мастацкай часткай. Справімся ж з гэтым! Згадзіліся з маёй прапановай. Прышыкавалі мы актуальную сцэнку і песенькі. Песенькі былі згодныя з духам і рэгіёнам — па-польску, па-беларуску і па-руску. Я ведала трохі тэорыю спеву, дык узялася за падрыхтоўку песень. Акадэмія ўдалася. Як на той час. На акадэміі былі прысутныя прадстаўнікі павятовага кіраўніцтва. Апрача апладысментаў і бісаў, якраз у гэты дзень была нам уручана малая сельскагаспадарчая бібліятэчка, ва ўзнагароду за ўдзел у чытальніцкім конкурсе. Індывідуальна кожная з жанчын атрымала цікавую кніжку з прысвячэннем і былі мы запрошаны да ўдзелу ў павятовым аглядзе песні ў Беластоку. У павятовым аглядзе прымала ўдзел сама моладзь і мой калектыў з-за ўзросту быў высмейваны: старыя бабы рвуцца да спеву! Выступілі мы там з вялікім поспехам. Здабылі першае месца, пераходны вымпел і цэлую штуку тканіны на строі. Усе іх пашыла я сама. Гэта былі якраз строі, у якіх мы ездзілі на Фестываль у Варшаву. Такім чынам стаў існаваць у Гарадку рэгіянальны вакальны жаночы калектыў...*

У першых рэпетыцыях удзельнічала 17 чалавек. Жанчыны з цяжкасцю ладзілі хатнія абавязкі ды працу з выступленнямі. Але ўжо здабывалі папулярнасць і штораз часцей іх запрашалі на розныя мерапрыемствы ў шмат якія мясцовасці: свята 22 ліпеня ў Беластоку, дажынкі ў Гарадку, пасля цэнтральныя ў Любліне, у Варшаве, Познані і г.д. Кожнае свята, кожную падзею, кожную дзяржаўную ўрачыстасць вітаў Гарадок сваёй праграмай, якой неадлучны элемент складалі іхнія частушкі — часам кплівыя, але і часта ўрачыстыя прыпеўкі.

У 1968 годзе з ліку даўніх сяброўак вакальнага калектыву ствараецца хор. Вакол Нін — Мушынскай і Цыванюк — сабралася каля 30 асоб, маладых і старэйшых. Сцяпан Копа прымае інструктарска-метадычную апеку і супрацоўнічае з хорам амаль 35 гадоў.

За шэсцьдзесят гадоў калектыў з Гарадка быў славутым амбасадарам Гарадоцкай зямлі ў розных закутках краіны і за мяжой, яе гонарам і незвычайнай прыкметай. У Доме культуры ў Гарадку ад часу яго здачы ў карыстанне ў 1965 годзе тут праводзіліся рэпетыцыі калектыву, тут знаходзяцца строі, інструменты, рэквізіты для пастановак і сцэнаграфіі. У супрацоўніцтве з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Беластоку ў рамках культурнага абмену рэалізоўюцца выезды калектыву на канцэрты і спявацкія фестывалі ў Польшчы і за мяжой. Калектыў запрашаюць таксама на агляды абрадных сцэнак. Шчыльная інтэграцыя з БГКТ праяўляецца ў прысутнасці «Расспяванага Гарадка» на чарговых выпусках Фестывалю беларускай песні ды большасці мерапрыемстваў беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне. Незалежна ад шматгадовага супольнага спявання запал і энергія жанчын з Гарадка нічуць не слабеюць. Калектыў у сённяшні час надалей папулярызуе прыгожыя старыя народныя беларускія песні, некаторыя ўжо зусім забытыя. Спявае таксама самыя новыя песні сучасных кампазітараў. Вялікай заслугай музычнага кіраўніка калектыву Віктара Маланчыка з'яўляецца знаходжанне новых тэкстаў і мелодый ды ўвядзенне іх у бягучы рэпертуар. Гэта песні з аўтэнтычным гучаннем, спяваныя з вялікай музычнай культурай і на прыгожай, літаратурнай мове. Цікавым мастацкім выклікам для «Расспяванага Гарадка» стала рэалізацыя праекта звязанага з супольным у час выступленняў спяваннем калядак з маладым гуртом «ILO &Friends», выконваючым рок-музыку па-беларуску.

У сваім рэпертуары гарадоцкія артысткі-аматаркі мелі таксама драматычныя творы. Славуты быў паэтычна-вакальны спектакль аматарскага тэатра-калектыву з Гарадка да тэксту Янкі Купалы *Адвечная песня*, са сцэнарыем і рэжысурай Ніны Мушынскай, дзе ўсе сцэнічныя рэквізіты і касцюмы ўласнаручна выканалі гарадоцкія жанчыны. Ставіліся і прадстаўленні, п'есы і інсцэніроўкі: гумарэска *Узятае з жыцця*, інсцэніроўкі і сцэнкі *Без віны вінаватыя*, *Валодзеў гальштук*, *Мікітаў лапаць*, *Пара — дзед і Тамара*, *Паўлінка*, *Прымакі*, лірычны твор *Явар і каліна* на словы Я. Купалы з музыкай Юркі Семянякі, прадстаўленне *Гора чубатае* А. Рылько, п'еса *Абразок з вясковага жыцця*, п'еса *Партызаны* К. Крапівы, п'еса *Грэшніца без віны* М. Астроўскага, спяваліся *Гарадоцкія частушкі*, якія найбольш складалі Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк. Слухачы ахвотна слухалі таксама вершы і маналогі ў выкананні спявачак, такія як *Хто з вас хлопцы*, *Хто з вас тутка нежанаты*, *Многа дзён — легендарных слоў*, *На нашым хітрым свеце*, *Паклікаў Стаську Антон*, *Слава вам*, *Вядома невядома*. «Расспяваны Гарадок» не толькі дасканала выконвае фальклорныя і сучасныя песні, але таксама выконвае пастаноўкі шмат якіх беларускіх абрадаў, зачэрпнутых з народных традыцый, прыгадваючы старыя, даўно забытыя абрады. Спапулярызаваў ён такія беларускія сцэнкі як *Бяленне палатна*, *Багаты вечар*, *Хрысціны*, *Дажынкі*, *Гуканне вясны*, *Калядкі*, *Капанне бульбы*, *Купалле*, *Шчодры вечар*, *Валачобнікі*, *Вяселле*, *Вячоркі*, *Вясна*.

У калектыве дзясяткі гадоў спявала пару дзясятак асоб. Прайшла праз яго немалая група індывідуальнасцей, мужчын і жанчын.

Вельмі вялікі ўклад у дзейнасць калектыву дзесяцігоддзямі мела Ніна Мушынская — арганізатарка, дырыжор, мастацкі кіраўнік, аўтарка тэкстаў і сцэнічных апрацовак, пры патрэбе краўчыха ад касцюмаў, жанчына з незвычайнай дынамікай і рухавасцю — ад пачатку была душой ансамбля. Належала яна да тых вялікіх грамадскіх дзеячаў, для якіх няма „закрытых дзвярэй”. За кожную справу патрапіла змагацца ад імя калектыву і рэгіёна. Ставілі яе ў радзе тых, хто стварыў жывую карту гісторыі беластоцкай культуры. Адважна партнёрылі ёй гадамі Ніна Цыванюк, Ірэна Паўлючук, Надзея Парэмбская, Вольга Мядзведзева. У канцы шасцідзясятых гадоў далучыўся да гарадоцкага калектыву Юры Налівайка, саліст з дасканалым голасам, чалавек адданы песні і аматарскаму руху, заслужаны салдат з-пад Монтэ-Касіна. Спяваў у хоры да лютага 1988 года. Сярод артыстаў-аматараў звязаных з калектывам з Гарадка былі таксама, між іншым, настаўнік Мікалай Ваўранюк, Сцяпан Зянюк, Аркадзь Трахімчык, Аляксандр Ясюковіч, Галена Кот, Раіса Дылько, Ніна Лапінская, Галіна Паплаўская, Марыя Салагуба і іншыя. Спісак членаў калектыву за шэсцьдзясяткаў гадоў падвяргаўся безупынным зменам. Актуальна „Расспяваны Гарадок” выступае ў саставе: Ніна Харужая, Галіна Дарашкевіч, Аліна Гобец, Галена Ляховіч, Ірэна Лавіцкая, Ірэна Паўлючук, Ірэна Свентахоўская і Марыя Врублеўская ды акардэаніст Віктар Маланчык. Аліна Казбэрук — мастацкі кіраўнік калектыву, працуе ў рэстаране „Zajazd przy Granicy” ў Валілах-Станцыі, родам яна з Меляшкоў, у калектыве ад 1999 года, спявае сапрана. Ірэна Паўлючук — пенсіянерка, родам з Гарадка, ад гадоў жыве ў Беластоку, але пастаянна даязджае ў Гарадок на рэпетыцыі і выступленні; спявае альтам, у калектыве ад пачатку яго існавання (ад канца 1953 г.), па-за выступленнямі ў калектыве здабыла шмат поспехаў спяваючы сола або ў дуэтах. Ніна Харужая — народжаная ў Страшаве; далучылася да калектыву ў 1995 годзе; выступае з калектывам або ў дуэтах з іншымі харысткамі; спявае сапрана. Марыя Врублеўская — родам з прымежных Баброўнік, працуе ў Беластоку ў акушэрска-гінекалагічнай клініцы; альтам спявае з калектывам ад 1996 года, піша вершы, мае выдатны акцёрскі талент, у чарговых этапах Фестывалю «Беларуская песня» выступала шмат разоў сола без музычнага акампанементу, займаючы ў конкурсах вядучыя месцы. Аліна Гобец — жыве ў Гарадку, працуе ў мясцовым Комплексе школ, у калектыве ад 1999 года, спявае сапрана. Галіна Дарашкевіч — сястра Анны Казбэрук, працуе ў прадуктовым гандлі, прыйшла ў калектыў у 1999 годзе, спявае сапрана. Ірэна Свентахоўская — родам з Іванок каля Нарвы, у калектыў вярталася шмат разоў, цяпер спявае ад 2008 года, альт. Ірэна Лавіцкая — жыве ў Гарадку, працуе ў сетцы крам «Lewiatan», прыйшла ў калектыў у 2013 годзе, сапрана. Віктар Маланчык — музычны кіраўнік калектыву ад 2002 года, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, іграе на акардэоне.

Галена Ляховіч — народжаная ў Элку, прыехала ў Гарадок ва ўзросце 4 гадоў, далучылася да групы ў 1990 годзе, спявае альтам; мае сцэнічны талент, ахвотна ўдзельнічае ў пастаноўках падрыхтаваных калектывам, складае вершы. Напісала верш пра юбілей «Расспяванага Гарадка»: *Табой ганаруся, „Расспяваны Гарадок” / Хачу Табе адкрыта і шчыра сказаць / Што мне ў жыцці пашанцавала / Каб у такім калектыве, як Ты, спяваць // Пасябравала з Табой даўнавата / Буду хутка сярэбраныя годы святкаваць / А мне ў памяці тая магічная дата / Калі ў Барыку выйшла першы раз выступаць // Дзякуючы Табе, мой калектыў дарагі / Прыйшлося ў вялікіх мерапрыемствах удзел прымаць // не толькі ў Польшчы, а і за мяжою / Сваю Беласточчыну і Гарадоцкую зямлю расслаўляць // „Расспяванаму Гарадку” шасцідзясяты год ідзе / Прызнаць трэба, гэта цудоўны юбілей / З гэтай нагоды пажаданні да мяне для Цябе: / Жыві і спявай гадоў сто, а мо і даўжэй.*

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# У Цеханоўцы Свята хлеба

**Банэры цеханавецкага Свята хлеба паведамлялі пра планаваныя ў час мерапрыемства беларускія пункты праграмы. Паколькі сам у сабе горад падаецца мне цікавым, таму задумалася мне падацца на тое свята...**

З аўтобуснага прыпынку, што ў „гродзенскай”, левабярэжнай частцы горада, кіруюся ў напрамку тамашняй царквы, якая ў будні дзень падаецца быць бяздзейнай, спадзяючыся, што можа пры нагодзе свята з імшой у касцёле праявіцца і нейкая царкоўная актыўнасць. І сапраўды, царква адчынена і правіцца ў ёй набажэнства. Народу мала, апрача святара адно дзесяць чалавек. Аднак гэтая камернасць прыдае своеасаблівай духоўнасці. Царква аснашчана вельмі сціпла, большасць ікон напісана ў сціплай мастацкай манеры з прымяненнем адно трох колераў навакольнага космасу: карычневага зямлі, залацістага сонца і серабрыстага месяца. Няма там рассейваючых засяроджанасць фрэскаў, а галасы трох жанчын на клірасе сканцэнтраваны не на вакальных стандартах, але на малітоўнай шчырасці. За Распяццем чорная мемарыяльная табліца...

Святар Міхал Андрасюк знае ўсіх прысутных, апрача, вядома, мяне. Таму пасля службы завязваецца даведвальная гутарка, да якой далучаецца і матушка Валянціна. Матушка, родам са Снежак, у пачатку 1980-х гадоў закончыла беларускую філалогію ў Варшаве і пасля навучала ў дашоўскай школе. Бацюшка, сам родам з Дашоў, даведаўшыся, што я родам з Ляўкова, інфармуе, што яго ў семінарыю рэкамендаваў тадышні тамашні, а цяпер ляўкоўскі настаяцель а. Леанід Янкоўскі...

У набажэнстве ўдзельнічала толькі адна цеханавецкая душа, апошнія — прыезджыя і праезджыя. У 1870-х гадах у Цеханавецкім праваслаўным прыходзе было каля чатырохсот душ, а ўжо ў 1919 годзе асталося іх каля ста сямідзесяці: у Цеханоўцы 79, у Мальцы 21, у Пшыбышыне 7, у Кулаках 14, у Пэлху 5, у Кобусах 32 і ў Радзішэве 10. Пасля чарговай вайны лікі гэтыя зноў значна паменшалі. Царква доўгія гады была запушчана, а толькі нядаўна пабелены сцены і столь. Дачка аднаго бельскага прадпрымальніка там вянчалася і той прадпрымальнік сфінансаваў абнаўленне царкоўнага інтэр’ера...

Царкоўны стараста паінфармаваў мяне, што мемарыяльная дошка прысвечана ахвярам пасляваеннага тэрору, якіх цел не ўдалося знайсці. Настаяцель да гэтага дадаў, што тая дошка была на царкоўным цвінтары, аднак злачынцы яе нішчылі, таму яе перанеслі найглыбей унутр храма. На дошцы чатыры прозвішчы. Тамаш і Аляксандр Супрынюкі з вёскі Пэлх — бацька і сын, забраныя, як інфармуе даведнік Канстанціна Масальскага, падпольнікамі 20 сакавіка 1945 года. Пра Вольгу і Вацлава, мабыць сужонства, Майдакоў, даведнік не згадвае; мабыць аўтар палічыў іх непраслаўнымі... Сімвалічная магіла ўсіх чатырох знаходзіцца на цвінтары.

З царквы адпраўляюся ў напрамку Музея сельскай гаспадаркі, які з’яўляецца арганізатарам Свята хлеба. Поўна ўжо там народу, які пранікае ва ўсе вулачкі агромністага лабірынта, створанага вытворцамі ўсялякага дабра са, здаецца, цэлай Польшчы. І невядома, ці мне ўдалося б знайсці выканаўцаў беларускіх фрагментаў святочнага мерапрыемства, калі б не заўважыў мяне Міхась Сцепанюк, які забяспечыў мяне вельмі змястоўнай інфармацыяй.

Госці Свята, што прыехалі з Беларусі, пільна працуюць перад колішняй вясковай хатай. Апранутыя ў колішнія беларускія народныя ўборы, вядуць яны майстар-класы па выплятанню аздобных шнурочкаў з каляровых ніцей. Вучыцца прабуюць дзеці і дарослыя, але гэтае мастацтва даецца не адразу. Удаецца мне ўлавіць свабодную хвіліну ў адной з вядучых.



■ Прадстаўніцы Беларусі; за збаном з беларускай вадою Ірына Юдзіна

Ірына Юдзіна, навуковы супрацоўнік навукова-экспазіцыйнага аддзела ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, што недалёка ад Мінска, інфармуе:

— Мы ўжо шмат часу супрацоўнічаем з Музеем земляробства імя ксяндза Кшыштафа Клюка, трэці раз прымаем удзел у Свяце хлеба.

— Што Вы прывозіце са свайго музея: што Вы прапануеце паказаць?

— Мы тут паказваем розныя беларускія дажынкавыя абрады. У мінулых гадах мы прывозілі абрады з Магілёўскай вобласці; сёлета прывозім абрады з Гарадзенскай вобласці: абрад завівання барады (слоўнік: барада — невялікі кусцік жыта, каля якога спраўляюць дажынкі) і дажынкавы абрад. Гэта абрады са Шчучынскага і Дзятлаўскага раёнаў. Апошні сноп на полі меў важнае значэнне. У Беларусі былі розныя віды гэтага апошняга снапа. Другі абрад быў звязаны са святкаваннем дажынак у Беларусі. Вось у гэтых раёнах Гарадзенскай вобласці аднаго мужчыну апраналі ў салому; абвязвалі яго так, каб не было бачна самога чалавека. Праводзілі яго жнеі, цягнучы барану ці саху — хто што хацеў, тое цягнуў. У прынцыпе гэта абазначала канец жатвы, значнага і цяжкага перыяду жыцця земляроба. Яны праз усю вёску праходзілі з тым саламяным чалавекам, пасля пачыналі спяваць, танчыць, частаваліся тым, што хто з сабою прынесіў. І вось сёлета мы прывезлі найбольш поўны паказ таго, як святкавалі дажынкі ў Беларусі. Вось і мы пакажам дажынкавы абрад на полі і будзем праходзіць з „саламяным” чалавекам. Пасля прыйдзем сюды, дахаты, дзе будзем частаваць гасцей свята традыцыйнымі стравамі: яечняй, хлебам, соллю, сырам і блінамі.

— Ці Вы займаецеся даследаваннем даўніх абрадаў па цэлай Беларусі, ці толькі некаторых рэгіёнаў? Ці можа сягаеце і за межы Беларусі, напрыклад на Беласточчыну, і даследуеце абрады мясцовых беларусаў. А можа заглядаеце і ў іншае блізкае замежжа, дзе пражываюць вашы супляменцы: Латгалію, Віленшчыну, Смаленшчыну?

— У першую чаргу мы, як дзяржаўная ўстанова, займаемся тым, што адбываецца ў нашай краіне.

— У дзяржаўных межах?

— Так. Але не толькі. Мы, як этнографы, няшмат будзем ведаць пра сябе, калі не будзем ведаць пра суседзяў. Для таго, каб ведаць кім ты з’яўляешся, трэба ведаць і побач каго ты жывеш. Тое ж сама датычыцца і гісторыі. Аднак, у першую чаргу, музей, як дзяржаўная ўстанова, займаецца вывучэннем нашых традыцый.

— Мне здавалася, што Ваша ўстанова, этнаграфічная, займаецца вывучэннем цэлага этнасу.

— А мне здаецца, што этнаграфічны музей у першую чаргу павінен вывучаць тое месца, дзе ён знаходзіцца.

— А як Вас прымаюць тут, у Цеханоўцы?

— Вельмі добра.

— Дзе Вас кватаруюць, як Вас кормяць?..

— Нас кватаруюць так, як і ўсіх гасцей.

У гутарку ўключаюцца прахожыя:

— А цо ў тым дзбанку?

— Вода, тылько вода. Хцэце? Наляць?

— А добра? З якей студні?

— З Бялорусі.

— То Вы з Бялорусі естэсьце?

— Так, з Бялорусі.

— То Вам вшысткего добрэго жычэ; вода своего кохайце.

— Дзенкуе.

— Але добра вода з Бялорусі. Тэн Лукашэнка добжэ студне копе. Спрубуй і ты, то бэндзеш здровы. І млоды, як та пані.

— Чэму я млода? Бо п’ю беларуску воду.

Прадаўжаю размову са спадарыняй Ірынай:

— Вы ў Польшчы толькі з цеханавецкім музеем супрацоўнічаеце?

— Толькі з цеханавецкім.

— А як называецца тое рукадзелле, якому вы тут падвучваеце цікаўных?

— Пляценне на пальцах. Гэтаксама і паясы робяцца, толькі тады ніткі больш доўгія і больш тоўстыя.

— Для чаго паясы?

— Наогул на вопратку. Яшчэ на веселлях маладых звязвалі паясамі. Сноп дажынкавы звязвалі. Гэтыя, што мы тут на майстар-класах паказваем, яны простыя, але тыя, што прымяняліся ў абрадах, яны больш складаныя, больш аздобленыя.

— А колькі асоб з Вашага музея прыехала ў Цехановец?

— Сем асоб. А ў абрадах прымуць удзел чатыры асобы. Дзве зараз вось тут, а дзве пайшлі ў касцёл пабачыць, як там адзначаецца Свята хлеба. Я ў папярэднія гады хадзіла ў касцёл, таму сёлета засталася тут праводзіць майстар-класы.

Вытрымкі з інтэрнэт-даведніка: „Першыя спробы стварыць музей-скансэн на Беларусі былі здзейснены ў 1908 годзе мастаком, тэатральным дзеячам і настаўнікам Фердынандам Рушчыцам (1870-1936). Гэтым марам перашкодзіла Першая сусветная вайна. У 1931 годзе Рушчыц зноў вяртаецца да думкі аб стварэнні музея пад адкрытым небам, на гэты раз каля Вільні. Смерць мастака ў 1936 годзе і пачатак Другой сусветнай вайны не дазволілі збыцца і гэтаму праекту. 9 снежня 1976 года цэнтральным камітэтам БССР была прынятая Пастанова „Аб стварэнні Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту”. Тэрыторыя для будучага музея была вызначана ў 4 км ад Мінска ля месца зліцця рэк Пціч і Менка ў вярхоўі Волкавіцкага вадасховішча, недалёка ад добраўпарадкаванай шашы Масква-Брэст, што дазваляла б у будучым уключаць экспазіцыю музея ў асноўныя экскурсійныя маршруты. Наогул гэта месца ўнікальнае, тут перакрыжоўваліся гістарычныя дарогі з Усходу на Захад, ад Балтыйскага да Чорнага мора. Тут, па версіі некаторых даследчыкаў, быў заснаваны старажытны Мінск”.

Па свайму профілю мінскі і цеханавецкі музеі здаюцца быць даволі падобнымі. Магчыма, што і падобныя мерапрыемствы ладжаныя імі. Цеханавецкае свята сабрала агромную масу людзей з шырокага наваколля. Вытворцы, нават з даволі адлеглых мясцовасцей, прапанавалі свае вырабы, не толькі хлеб, але і шмат што да хлеба. Як у народнай казцы: і я там быў, і сёе-тое прабаваў...




■ Мемарыяльная дошка ў царкве



■ Цеханавецкая царква

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# ХАТА — нямы сведка гісторыі

Знаёмы сігнал, некалькі аднолькавых тактаў адурманьваючага, замежнага шлягера. Пад хату цёткі Зіны ў Азяранах-Вялікіх пад'язджае аўтакрама з прадуктамі, а праз некалькі хвілін, у тым жа месцы але ўжо без музыкі, запыняецца аўтамабіль са шматамі.

— А на што ж мне гэтыя шматы, дзе я іх апрану, — тлумачыць сабе цётка. На ўсякі выпадак бярэ кашалёк і ідзе, хаця б паглядзець.

Чакаю яе на лавачцы пад старой хаткай. Захапляюся скошанай, зялёнай травой, вазонамі чырвоных гераней. У цяньку старой ліпы невялікі столік і два крэслы — адмысловае хатняе кафэ, лепшага і ў сталіцы не знойдзеш. Адкрываецца яно толькі вечарам. Днём гасцюючая тут сям'я безупынна нешта парадкуе, варыць, майструе. Гаспадароў у вёсцы на адной руцэ злічыш, але на панадворку, па другім баку вуліцы, таксама яшчэ тупаюць. Далей ужо пустэча. Нейкі не стары яшчэ мужчына з барадой і вачыма манаха нясе толькі што закупленыя харчы. Цёмна-сіняя аскетычная вопратка і цяжкія боты здраджваюць любоў да простага жыцця. Мабыць, майструе тут свой скіт.

Цётка вяртаецца без пакупак, запрашае ў сваю маленькую хатку. Уваходзім у прасторныя, чыстыя сенцы са старой шафай, такімі ж дыванамі на падлозе і драбінкай на гарышча — летнія пакоі дзяцей і ўнукаў. Дзверы налева вядуць у невялікі, чысцюткі пакой. Пад сценамі тры канапы, засцелены вытканымі цёткай капамі, на адной пярыны да самай столі. Ёсць дзе пераначаваць і чым прыкрыцца. Можна не разбувацца,


Аконца ў хаце цёткі Зіны

дыванчыкі ад забруджання засцерагаюць кускі гумалеума. Пад святым кутом стол, а на ім тэлевізар, вядома, з выбарам беларускіх каналаў. На вокнах з-пад белых фіранак выглядаюць чырвоныя герані. Кругом абої ў кветкі і безліч здымкаў дзяцей, унукаў і праўнукаў. За абаграваючай цэлую хату сцяной з глінянай і кафлевай печкі невялікая кухня. Ёсць усё што трэба, гліняная ляжайка, хлебная печка, халадзільнік, белыя кухонныя шафкі. Сярэдзіну асвятляе адзінае, але вельмі сонечнае аконца. Яно ззяе беллю накрухмаленых, вышываных заслонак і сонечнай чырванню засыпанай цукрам парэчкі ў слоіках, элегантна перавязаных зверху беленькімі сурвэтачкамі. Ёсць нават электрычны чайнік, у якім цётка кіпяціць ваду, і залівае мне каву.

Напэўна няшмат такіх людзей, якія пражылі б сваё жыццё ад пачатку да канца ў адной хаце. Цётка Зіна адна з іх. Яна тут з 1930 года. Яе маці, Вольга Чабан, народжаная ў Баратыншчыне, павянчаўшыся з Філіпам Лапінскім, пасялілася ў гэтай хаце ў 1910 годзе. А ўжо праз чатыры гады паехала ў бежанства. Людзі карміліся гісторыямі пра бязлітасных, прагных праваслаўнай крыві немцаў, але яе бацька, нябедны і не дурны гаспадар Вікенцій Чабан, не злякаўся. «Нікуды не паеду, там нічога майго няма і не будзе», — маўляў. У 1914 годзе Вольга апошні раз пабачылася з бацькам і братам Антонам — маім прадзедам. Калі вярнулася, яны ўжо не жылі. З Азяран-Вялікіх у бежанства падаліся амаль усе праваслаўныя. Толькі з хаты, якая яшчэ стаіць па-суседску з цётчынай, не выехаў ніхто. Там якраз умíраў гаспадар-бацька. Вынеслі яго з ложкам на панадворак і пакінулі. Даехалі толькі за раку і вярнуліся назад.

— Уцякалі ад немца, а яго ніхто не бачыў і не ведаў. Ніхто нікога не ўгаворваў, ніхто нікога не стрымліваў, — тлумачыць Зіна. — Польскія не выязджалі, яны ж у Расію не паедуць.

Вольга, Філіп, яго сястра Галена, баба Марыя і народжаны ў 1912 годзе брат цёткі Зіны, Аляксандр, даехалі на возе да Баранавіч, там пакінулі каня і селі ў цягнік, якая вывезла іх на Сібір. Нямытыя, нябрытыя, галодныя валакліся невядома куды. Па дарозе Філіп захварэў тыфам. Забралі яго ў шпіталь, астатніх адправілі далей. На шчасце потым неяк іх знайшоў. Неўзабаве разлучыліся зноў. У гэты раз Філіпа забралі ў войска. Вольга з сям'ёй засталася ў Аляксандраўцы. Тры гады гасцявалі ў багатых-прабагатых гаспадароў гэтага багатага-прабагатага сяла. Шмат азяранцаў туды папала. Большасць з іх адаслалі на працу ў тамтэйшы жаночы манастыр. Дзе будзе лепш, чым у манастыры? Манашкі надта цешыліся з новых памочнікаў, адплачваліся, чым маглі, кармілі да сыта, а яшчэ і дахаты давалі. Вярнуўшыся з войска, Філіп перавёз сям'ю ў горад Омск. Ён працаваў на фабрыцы, Вольга займалася хатай. Так пражылі чарговыя тры гады. Надышлі цяжкія, рэвалюцыйныя часы. Трэба было ўцякаць, у гэты раз ужо не ад немцаў. Не ведалі, што чакае іх на роднай зямлі. На шчасце азяранская хата, пабудаваная дзедам цёткі Зіны, Сцяпанам Лапінскім, яшчэ стаяла і стаіць па сёння. З бежанства не прывезлі нічога, нават здымка. Цётка Зіна таксама не любіць, калі яе фатаграфуюць. «Усе Чабаны такія», — тлумачыць. Толькі хата ўжо больш за сто гадоў сведчыць пра падзеі і лёсы яе жыхароў.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




У Беларусі распачалася кампанія па выбарах прэзідэнта. У параўнанні з папярэднімі выбарамі галавы беларускай дзяржавы, гэтая кампанія праходзіць ціха, незаўважна і нецікава. Па сутнасці яе ўвогуле няма, ды і быць не можа, бо адкуль ёй узяцца, калі ўласна палітычнае жыццё ў Беларусі можна пабачыць, толькі ўзяўшы магутны мікраскоп. Па вялікім рахунку гэта натуральны вынік усёй папярэдняй палітычнай гісторыі краіны. За дваццацігоддзе кіравання цяперашняга прэзідэнта найбольш актыўныя яго праціўнікі альбо памерлі, альбо эмігравалі, альбо знаходзяцца ў турме. Здаецца, Беларусь зараз праходзіць мала каму заўважны рубікон — існыя ашмоткі апазіцыі ўжо не ў стане нават гучна заявіць пра сабе, улада больш не можа кіраваць як раней, разлічваючы на дармавую дапамогу Расіі, а парасткі нечага новага ў палітыцы і эканоміцы яшчэ, умоўна кажучы, не прабілі глебы і таму ўбачыць іх немагчыма. Менавіта таму зацікаўленасць да выбараў блізкая да нуля, і калі б улада не выкарыстоўвала адміністрацыйнага рэсурсу, гэтая электаральная кампанія скончылася б для яе поўным правалам.

Паколькі практычна ўся грамадская думка аб палітычным і эканамічным уладкаванні Беларусі адстаўлена ўбок, то, натуральна, віруе яна выключна ў інтэрнэце. Там яна радыкалізуецца, што ў сваю чаргу спрыяе радыкалізацыі поглядаў. Адным з прыкладаў гэтаму з'яўляецца сайт, што ўзнік у інтэрнэце сёлетнім жніўнем і мае назву „Народная перамога”.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **https://pieramoha.org**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне, выкананае ў белых і чырвоных колерах. Уверсе пад назвай сайта месціцца адозва „Змагайся! Пераможаш!” і тлумачэнне „Рэсурс пра змаганьне і перамогу народаў”. Гэтыя словы адразу вызначаюць нязгоду ўладальнікаў сайта з існуючай сітуацыяй, прычым сыходзіць яна ад нацыянальна арыентаваных беларусаў, аб чым сведчыць размешчаны пасярэдзіне герб „Пагоня” — так нямілы цяперашняй прасавецкай уладзе ў Беларусі.

Сайт „Народная перамога” мае не зусім звычайнае дзяленне — ні ў левым баку, ні ўверсе няма выйсцяў на рубрыкі. Уласна рубрыкі ідуць адна за адной зверху ўніз. Іх не надта многа, але яны напоўнены актуальнай інфармацыяй. Так, уверсе пададзены выйсці на папулярныя артыкулы, якія аздабляюцца фотаздымкамі, у прыватнасці, іх героя. Ніжэй ідзе рубрыка „Галоўнае”. Праўда, па якім крытэрыі там размешчаны артыкулы — невядома, бо яны мала чым адрозніваюцца ад нататак у рубрыцы „Стужка”, што месціцца ніжэй. І ў той, і ў другой ходзіць пра палітычную сітуацыю як у Беларусі, так і ў Расіі з Украінай. Ідэйныя натхняльнікі сайта не хаваюць сваіх поглядаў — яны выступаюць у падтрымку дэмакратычных пераўтварэнняў на Украіне.

Адной з найцікавейшых рубрык сайта падаецца „Фотаальбомы”, дзе апублікавана мноства фотаздымкаў, адсартаваных тэматычна. Тут можна пабачыць галерэю выяў Васіля Быкава, герояў студзеньскага паўстання 1863 года, гісторыі выкарыстання на масавых акцыях бел-чырвона-белага сцяга, маладзёнаў, што выступаюць за цяперашнюю беларускую ўладу і іншыя.

У рубрыцы „Кнігі” цікаўны карыстальнік можа спампаваць палітычныя выданні аўтарства Зянона Пазьняка, расійскага гісторыка Марка Салоніна, расійскага пісьменніка Міраслава Кулебы і іншых.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Руплівец апостальства ў родным духу і мове



# 125 гадоў з дня нараджэння Язэпа Рэшаця

Беларускі рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, навуковец, педагог, пісьменнік, драматург і публіцыст Язэп Рэшаць нарадзіўся 28 жніўня 1890 г. у вёсцы Рушчаны каля Харошчы на Беласточчыне. Ён вядомы таксама як каталіцкі святар заходняга абраду, бенедыктынец, місіянер, доктар філасофіі з тэалогіі. Адзін з найбольш вядомых тэолагаў і вучоных у гісторыі беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя.

Паходзіў ён з сялянскай сям'і беларусаў-каталікоў Яна і Ганны (у дзявоцтве Баброўская) Рэшацяў. У 1910 г. скончыў Беластоцкую гарадскую гімназію. Пасля адразу паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Уваходзіў у культурна-асветны гурток беларускіх студэнтаў. У 1913-1915 гг. супрацаваў з каталіцкім тыднёвікам «Беларус». Вучыўся ў Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме (цягам 1913-1919 гадоў), які скончыў са ступенню доктара філасофіі і тэалогіі, адначасна наведваў заняткі ў папскім Усходнім інстытуце (1919-1921) і ў Collegium Germanicum. Пасвячаны ў святары 2 снежня 1917 г. у Рыме.

Пасля вяртання на радзіму ў 1921 г. кароткі час Язэп Рэшаць служыў вікарыем у Гродне. Працаваў у Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі на пасадзе прафесара філасофіі і апалагетыкі, куды быў прызначаны біскупам Юры Матулевічам. Адначасна выкладаў патрыстыку ва Універсітэце Стэфана Баторыя і Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. Прымаў чынны ўдзел у заходнебеларускім нацыянальна-рэлігійным жыцці. У 1928-1929 гадах актыўны дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У складзе беларускай дэлегацыі ўдзельнічаў у працы V Уніяцкага кангрэса ў Велеградзе, што прайшоў у Чэхаславаччыне ў ліпені 1927 г. Супрацаваў з каталіцкім перыядычным выданнем «Chryścijanskaja Dumka».

Паводле ўспамінаў айца Пятра Татарыновіча святар Язэп Рэшаць быў адным з найбольш адданых прыхільнікаў апостальства ў родным духу і мове.

З прыходам на пасаду кіраўніка Віленскай дыяцэзіі біскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага Рэшаць фактычна быў звольнены, пераведзены ў Беластоцкую настаўніцкую семінарыю, а пазней — на душпастырскую дзейнасць у вёску Даўнары ў Мазовіі (з 1931 г.). У 1938 г. выехаў у ЗША да ксяндза Яна Тарасевіча ў мясцовасці Лайл (Lisle) паблізу Чыкага, дзе ўступіў у ордэн св. Бенядыкта ў абацтве св. Пракопа. Пасля гэтага навіцыята атрымаў манаскае імя Апанас.

Язэп Рэшаць — аўтар рэлігійных і навуковых кніг «З Хрысьціянскай апалёгэтыкі», «Сьвятыя», «Асновы хрысціянскай веры для беларускага народа» (Вільня 1927), «Кароткі катэхізм для беларусаўкаталікоў» (Вільня 1927, лацінкай, перавыдадзена ў Мінску ў канцы 1941 г. ксяндзом Станіславам Глякоўскім без дазволу нямецкай цэнзуры), «Z historyi apolohetyki chryścijanskaj» (Вільня 1928), іншых твораў. Адзін з распрацоўшчыкаў статуту Лігі абароны правоў беларусаў-каталікоў. Пад псеўданімам Язэп Рушчанец выдаў п'есы «Першыя ластаўкі», «Зорка-ідэя». Выдаў таксама іншыя кніжкі. Сястра Язэпа Рэшаця — Марыя, стала жонкай вядомага беларускага грамадска-культурнага дзеяча Браніслава Туронка, маці Юрыя Туронка — вядомага беларускага гісторыка.

Памёр Язэп Рэшаць у ЗША 15 лютага 1958 г.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# І ў Вульцы жывуць людзі...

Вулька-Выганоўская і Москаўцы, што ў Арлянскай гміне, прытуліліся да сябе быццам сястрычкі. Гэтыя сёлы запамяталіся мне з шасцідзясятых гадоў, калі ў Вульку-Выганоўскую заязджалі мы з кінаперасоўкай. У вёсках бурліла тады жыццё, квітнела культурная дзейнасць. Моладзь арганізавала танцавальныя вечарыны, засноўвала мастацкія калектывы. У Москаўцах працавалі драмгурток і бібліятэчны пункт. Абменам кніжак займалася Лідзія Піцэлюк, важак моладзі і душа калектыву. Москаўскія самадзейнікі ставілі беларускія пастаноўкі. Іхнім музыкантам быў аднавясковец Яўген Хмур. Належна ладзілася супрацоўніцтва моладзі з настаўнікамі з Вулькі-Выганоўскай. У пачатковай школе працавалі Вольга Карпюк — кіраўнік школы, Вольга Ігнацюк, настаўнік Гаўрылюк (імя не запамяталася), ды чатыры маладзенькія прыгажуні: Марыся Хрэн, Ніна Васілеўская, Надзея Шатыловіч і Валя Жмейка. Гэта быў своеасаблівы настаўніцкі квартэт. Марыся Хрэн цудоўна іграла на акардэоне, яе сяброўкі заварожвалі спевам. Адной супольнай праблемай абедзвюх вёсак была адсутнасць святліцы.

У палове сямідзясятых гадоў у Вульцы-Выганоўскай узнік грамадскі камітэт пабудовы святліцы. Ідэю лакальнай грамадскасці падтрымала Павятовая камендатура пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім. Гэтай справай у гміне займаліся камендант Адольф Часноўскі і грамадскі камітэт, але безвынікова. Грамадская ідэя памерла сваёй смерцю. І толькі ў пачатках чарговага стагоддзя штосьці зварухнулася. На вясковым сходзе ў Вульцы-Выганоўскай, а было гэта ў 2008 г., войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк паабяцаў жыхарам пабудову святліцы. І стрымаў слова. Здача ў карыстанне культурнага цэнтра і яго асвячэнне адбылося 16 кастрычніка 2010 года. Для жыхароў Вулькі-Выганоўскай гэта было вялікае свята. Былі песні і забава. Быў супольны пачастунак...

Нагода для наведання даўнейшых знаёмых трапілася мне 9 жніўня г.г. Гайнаўскі музей і асяродак беларускай культуры арганізаваў у Вульцы-Выганоўскай фэст з цыкла „І тут жывуць людзі”. Карыстаючыся запрашэннем, у кампаніі Валодзі Данілюка і яго сына Гжэся з Маліннік падаліся мы на імпрэзу.

Перад будынкам святліцы заспелі шматлюдную публіку. Адны прыселіся на лаўках у цяньку палаткі, якую арганізатары прыспасобілі для гледачоў насупраць сцэны, іншыя — на лаўках пад адкрытым небам. У першым радочку селі ганаровыя госці — дырэктар Гайнаўскага музея Тамаш Ціханюк, намеснік бельскага старасты Пётр Божка, член павятовага праўлення Бельскага павета Міраслаў Бала, а. мітрат Лявон Саевіч. Побач аўдыторыі прыкмячаю латок з півам, пры будынку святліцы — ражон, з якога даходзіў пах печанай каўбаскі, грудзінкі ды іншых смакавітасцей. Быў латок з марожаным і беларускімі музейнымі выданнямі.

■ „Вэрвачкі” на сцэне

Пачаўся канцэрт. У першай частцы выступілі калектывы Гміннага асяродка культуры ў Орлі — „Фэрмата” і „Вэрвачкі” пад кіраўніцтвам Володыміра Рэвы (Роўна), гурты „Тры пальці” і „Арляне” пад кіраўніцтвам Мікалая Фадзіна (Гродна), затым „Малінкі” з Маліннік. У другой частцы — „Гай” з Беластока пад кіраўніцтвам Марыюша Харужага, „Арт-Пронар” Янкі Снарскага з Нарвы і „Мэтро” з Гайнаўкі. Канцэрт доўжыўся больш за тры гадзіны. Рэпертуар быў багаты і разнародны. Выконваліся беларускія, украінскія і рускія песні. У тым жа духу працягваў весяліць публіку музычны гурт „Тры пальці”. У перапынках паміж выступамі вядучыя, а былі імі Марыёля Герман і Паўліна Паўлючук-Коська напаміналі:

— Не быць гэтаму мерапрыемству без фінансавай дапамогі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, суполкі Бужынскія з Бельска-Падляшскага і Гміннай управы з Орлі. За гэта ім належыцца сардэчная падзяка.

Хачу прыбавіць, што фірма Бужынскіх спансаравала бясплатныя гарачыя мясныя вырабы з грыля. Усяго было ўдосталь. Можна было спажываць без абмежавання. Публіка была на сёмым небе. Аматары піўца захапляліся духмяным араматам напою, дзяцюкі — марожаным. Іншыя спажывалі гарачую смажаніну пры століках побач палаткі. Былі і конкурсы з узнагародамі...

Паколькі ў пачатках гледачы захапляліся народнымі напевамі арлянскіх гуртоў, дык прыезджыя госці далі штуршок для забавы. Да танцаў падбадзёрыў лідар калектыву „Гай” Марыюш Харужы. Закружыліся пары ў такт добравядомых мелодый. Канцэрт завяршаў „Арт-Пронар”. Пры іх выступе ногі самі рваліся да танца. Гулялі маладыя і дарослыя. Пачалося з „Беларускай гаворкі”. Затым былі іншыя, між іншым „Беларусь наш край”, „Букеты белых руж”, „Галіна”, „Кінастужка”. Пры гэтай апошняй быў аб'яўлены конкурс: „Што абазначае слова „кінастужка”? — пытала Марыёля Герман. Але з публікі ніхто не адказаў.

Набліжалася 19 гадзіна. Выступ нарваўскіх артыстаў працягваўся. На пляцоўцы прыбывала танцораў. Шкада было пакідаць вясёлую кампанію. Але каму ў дарогу, таму час. У кампаніі сяброў з Маліннік, поўныя станоўчых уражанняў ад фэсту, падаемся дамоў... я ў Кузаву.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вулей у дупле = 3 _ 2 _ 4 _ 14 _ 15 _;
2. прыкрыццё куфра = 29 _ 31 _ 16 _ 27 _;
3. гармата для стральбы па закрытых цэлях = 26 _ 24 _ 18 _ 12 _ 23 _ 10 _ 5 _;
4. народны абрад памінання продкаў = 28 _ 8 _ 11 _ 25 _ 20 _;
5. маці Кастара і Полукса = 22 _ 6 _ 1 _ 30 _;
6. звычай, прывычка, фасон = 19 _ 17 _ 7 _ 13 _;
7. сёмы гук музычнай гамы = 21 _ 9 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Фунт, Лоеў, авёс, лязо, бык, Елгава, цемната, цынік, часнок, Гаага, вал, Пскоў, церніца, пядзя, Галавач.

Рашэнне: **Не ўсё збываецца, чаго чалавек спадзяваецца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 30.08 — 05.09

**(22.03. — 20.04.)** Ненайлепшы час для прапановы рукі і сэрца, для заключэння дзелавых саюзаў і аб'яднанняў. Адкладзі на потым любыя рашэнні, якія тычацца твайго асабістага жыцця. Калі на гэтым тыдні ў цябе зломіцца пазногаць на сярэднім пальцы левай рукі — гэта вельмі нядобрае прадвесце, звязанае са стратай грошай ці здароўя. Каб нейтралізаваць негатыўную энергетыку, трэба ўстаць перад вялікім люстрам і зрабіць тры поўныя абароты вакол сябе ў правы бок.

**(21.04. — 21.05.)** Нягледзячы на багацце ідэй і праектаў, не прысвячай нікога ў свае планы, інакш тваім даверам могуць скарыстацца нядобразычліўцы. Адкладзі прыняцце сур'ёзных рашэнняў да будучага тыдня, яшчэ раз усё добра ўзваж і абмяркуй: магчыма, ты кардынальна зменіш сваё меркаванне аб праблеме. У панядзелак верагодныя канфлікты з блізкімі людзьмі, са старэйшымі сваякамі.

**(22.05. — 22.06.)** У панядзелак пазбягай вялікага фізічнага напружання, не спрабуй рабіць больш, чым можаш і гаварыць пра тое, чаго не ведаеш. Аўторак — дзень кантрастаў. Серада — псіхалагічна нестабільны дзень. Паспрабуй не зрывацца на блізкіх, не дапускай разрастання сварак і канфліктаў. Не глядзі на падаючыя з неба зоркі, каб не прыцягнуць хваробу або хуткую старасць.

**(23.06. — 23.07.)** Накіруй свае намаганні на паляпшэнне свайго сацыяльнага становішча. Зараз надыходзіць зручны час для таго, каб звярнуцца да экспертаў і атрымаць у іх дзелавую або персанальную параду. Не вырашыш чагосьці сам. Калі знойдзеш ракавінку ўдалечыні ад мора ці ракі — гэтая прымета абазначае ўдалы шлюб і шчаслівае сямейнае жыццё.

**(24.07. — 23.08.)** Не губляй пільнасці: маеш шанцы набыць нешта новае ў сваім жыцці. Верагодныя новыя любоўныя сувязі, раманы і таемныя сустрэчы, а таксама аднаўленне старой сардэчнай прыхільнасці. Як з найлепшага боку пакажуцца твае сябры, ахвяруюць табе канкрэтную дапамогу. Шукаючы працу (асабліва калі ты народжаны пасля 15.08.), будзь вельмі асцярожны, бо можа паявіцца хтосьці нядобразычлівы.

**(24.08. — 23.09.)** Пільнуйся, каб твае пачуцці не ўзялі верх над логікай промахаў. Але маеш магчымасць і сілы супрацьстаяць негатыўным момантам. Будзь асцярожным і не прымай ніякіх падарункаў і дароў і ад малазнаёмых, і добравядомых табе людзей. За іх вонкавай прыязнасцю можа хавацца таемнае.

**(24.09. — 23.10.)** Добры час на любоўныя далёкія планы. Калі ў панядзелак табе давялося па неабходнасці завязаць больш за два вузлы (выключаючы тыя выпадкі, калі завязванне вузлоў з'яўляецца тваім паўсядзённым абавязкам), гэта абяцае табе тры гады няўдач і бясплённых дзеянняў. Каб разбурыць заклён гэтай прыкметы, трэба завязаць яшчэ адзін вузел на чорнай нітцы або вяроўцы і спаліць яго ў полымі чырвонай свечкі.

**(24.10. — 22.11.)** 29-31.08. маеш вялікае шчасце ў фінансах. Чакае цябе шмат спраў і праблем, але ўсе яны пойдуць на карысць. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасць, страхаванне і падаткавыя зніжкі прынясуць табе прыбытак. У панядзелак папросяць цябе заплаціць па старых рахунках. Гаючы рытуал: пасадзі ў гаршчок гарчычнае насенне і палівай яго вадой, у якую дадай кроў або сліну хворага. Калі расліна ўзыдзе, вырві яе з зямлі і прыкладзі да хворага месца. Пасля гэтага выкінь расліну ў раку або спалі яе на вогнішчы.

**(23.11. — 22.12.)** Добры час на ашчаднасці. Калі ў цябе маюцца далёка ідучыя планы, задзейнічай уплывовых сяброў і сваякоў. Грамадскія кантакты могуць стаць каштоўнымі для будучых дзелавых аперацый. Калі натрэш мазоль старым разношаным абуткам, гэта прадвесціць табе цяжкі шлях да поспеху.

**(23.12. — 20.01.)** Добры час для атрымання новых ведаў і набыцця новага вопыту, для наведвання курсаў і семінараў. У гэтыя дні зможаш закласці добрую аснову для сваіх будучых фінансавых поспехаў. Новыя сувязі з дзелавымі партнёрамі могуць стаць вельмі трывалымі. Тыдзень вельмі ўдалы для тых, хто цяпер заняты пошукамі новай працы.

**(21.01. — 19.02.)** Дрыгне штосьці ў кампанейскіх адносінах. Пастарайся прыашчадзіць. Твае сакрэты могуць быць раскрытыя. Кантралюй свае паводзіны, каб пазбегнуць нейкіх незваротных наступстваў. Калі будзеш падмятаць падлогу і тры разы выпусціш венік, гэта прадвесціць табе заступніцтва і абарону ад многіх небяспек, а таксама змену ўсіх тваіх спраў да лепшага. Для ўзмацнення ўплыву прыкметы вылamі з веніка дубчык і насі яго з сабой у якасці ахоўнага талісмана.

**(20.02. — 21.03.)** Тыдзень поўны прыгод. Твой рознабаковы і здаровы розум дазволіць табе знайсці правільныя рашэнні ва ўсіх сітуацыях і справіцца з многімі праблемамі. У аўторак верагоднае рамантычнае знаёмства з чалавекам здалёк. У сераду не рэкамендуецца табе прымаць удзел у азартных гульнях. Чацвер — вельмі спрыяльны дзень для бізнесу і дзелавых узаемаадносін.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# У палескай глыбінцы (11)



А будзілі мяне рытмічныя словы малітвы. Голас манаха даходзіў з канца калідора, пранікаў праз сцены ў пустыя пакоі, ажыўляў паветра і падбіваў дыханне. Я ляжала ў паўсне і гадала: дзе я? Свядомасць, што знаходжуся ў манастыры, вярнула пачуццё бяспечнасці. За акном ноч саступала світанку. З шэрага паветра ўсплывалі каменны мур і чорныя абрысы дрэў. Разам з цемрай адплывалі начныя жахі. Яшчэ некалькі гадзін раней справы выглядалі безнадзейна дрэнна...

Адразу пасля прыезду я атрымала асобны пакой з трыма ложкамі, столікам і шафай. У маім крыле корпуса быў заселены яшчэ адзін пакой, у якім прабываў манах з адухоўленым тварам. Ноччу з таго боку ўспыхнуў неўтаймаваны сухотны кашаль. Атака доўжылася за дзве гадзіны. Агрэсіўны кашаль разрываў начную ціш і наклікаў трывогу. Я адчувала сябе як у шпіталі для смяртэльна хворых, дзе пачуццё бездапаможнасці пераклікаецца са спадзяваннем на цуд.

Ранішняя малітва даходзіла з келлі хворага манаха. У рытмічным радках адчуваўся здаровы прыток жыцця. Я падумала пра чарговы цуд аздараўлення.

* * *

Усё з-за цудадзейнага піяру, які народ і мясцовыя вершаскладальнікі прыпісвалі месцу, цудоўным іконам і айцу архімандрыту. У палескім краявідзе яны здаваліся фактамі, з якімі брыдка і небяспечна спрачацца. У Свіцязскай хроніцы цудаў чытаем такое: *Аднойчы ў манастыр прыехала жанчына, якой лекары катэгарычна забаранілі нараджаць дзіця, яна атрымала папярэджанне: або сама памрэш, або дзіця народзіцца калекам. Кабета не хацела рабіць аборт, яна баялася ўзяць грэх на сваю душу. Нехта параіў ёй з'ездзіць у Свіцязь ды памаліцца перад іконай Пачаеўскай Божай Маці. Пасля некалькіх месяцаў шчаслівая маці прыехала з дзіцяткам на руках, каб падзякаваць за дапамогу...*

Чарговы прыклад здаўся не так ужо арыгінальным, затое паказваў, што Свіцязі не абмінаюць сталічныя людзі: *Некалькі разоў у Свіцязь прыязджала сям'я з Кіева. Іхняя дачка звязалася з сектай. Ад гэтага захварэла псіхічнай хваробай. Яе аздараўленне ішло марудна, некалькі гадоў. У канцы канцоў хвароба саступіла. Зараз сям'я прыязджае кожны год у манастыр адслужыць падзячны малебен.*

У хроніцы запісана таксама гісторыя алкаголіка з Бярэсця, які шмат гадоў пакутнічаў *недугом п'янства*. Аднойчы ў сне яму з'явілася Божая Маці. Яна загадала хвораму прыдбаць ікону «Неўпіваемая чаша» і прывезці яе ў Свіцязь. Пасля выканання загаду, берасцеец выйшаў з алкагольнай залежнасці і стаў выпраўляць жыццёвыя памылкі.

* * *

Я сама ў напружанні чакала ранішняй літургіі, якая мела дапоўніць сэнс маёй пабыўкі ў манастыры. Па дарозе я прыкмеціла сястру Феадосію, якая акопвала агародніну на градках. Я азірнулася на будынак, каб упэўніцца ці не ідуць адтуль манахі на набажэнства. Дзень раней я была адзінай паломніцай на вячэрні.

Раніцай, апрача мяне, на багаслужбу з'явілася сям'я, у якой выпала «саракавая» па пакойніку. На ахвяравальным прастоле жанчыны паклалі хлеб, піражок «халку», сочыва, смятану, апельсіны і цукеркі. Яда, згодна народнай традыцыі, мела насыціць душы памерлых продкаў. У іх памяць запалілі васковыя свечкі.

Багаслужба прайшла непрыкметна, у атмасферы спеху. Большасць літургії адслужыла рэгентка. Яна самастойна праспявала ўсе малітвы, екцянні і прачытала Евангелле. Такі падзел абавязкаў відавочна падабаўся святару, які выконваў неабходныя рытуалы і толькі зрэдку браў слова. У глыбі душы я была расчараванай, найперш з-за адсутнасці манахаў на багаслужбе. Гэтае пачуццё крыху кампенсаваў гістарычны інтэр'ер, які жыва напамінаў колішнія падляшскія цэрквы. Сярод ікон я прыкмеціла Міколу Цудатворцу ў абкладзе прастрэленым куляй. Ікона была прынесена са старой каплічкі, якая служыла мясцовым яшчэ да ўзвядзення царквы-мураванкі. Зараз яна прамаўляла як жывы працяг гісторыі. Уразіла мяне «непрыкметнасць» цудадзейнай іконы Пачаеўскай Божай Маці. Гэта была звычайная копія, завешаная над райскімі варотамі. Яе аздаблялі сціплыя, непрыкметныя здалёк, падвескі. Здавалася — усё нармальна! Аднак у момант, калі я прыступала да цудадзейнай іконы, душу апанавала ўзрушанасць. У грудзях пачуўся гарачы прыток энергіі. Я пакінула Свіцязскую царкву ў пачуцці ўпэўненасці — штосьці клікала мяне ў далейшае падарожжа.

* * *

Перад ад'ездам яшчэ раз я схадзіла на возера, якое здавалася неад'емнай часткай манастыра. Першыя запіскі пра яго, апублікаваныя ў «Кіеўскай старыне» ў 1901 годзе, сваім стылем напаміналі візантыйскі фрэск. Будучы акадэмік АН УССР Павел Апалонавіч Тутkоўскі пісаў: *Вялізная, магутная чорна-блакітная ваdзяная прастора... Быццам аксамітная плахта, усеяная сапфірамі, смарагдамі, дыяментамі, яна неспакойна рухаецца, дрыжыць; па ёй носяцца адна за адной вялікія як на моры валы і хвалі... Хвалі коцяцца па вадзе, сляпіцай пруцца да берагу, каб з дзікім, пагрозлівым рокатам, у якім разбіваюцца рэхам людскія гутаркі, з сілай грымнуць аб бераг, адбіцца ў злосці і насуплена адплысці дзесьці ў бесканечнасць...".*

Возера прывітала мяне лагодным шархаценнем сіня-шэрых хваль. Я думала пра сны мясцовых людзей, напалоханых вайной, безграшовасцю і засухай. Прыгадаліся начныя пакуты ў манастырскай келлі. Не менш балела скалечаная набярэжная, з грубай, хаатычнай забудовай лецішчаў. Іх неахайны выгляд застаўляў думаць пра смеццевы турызм і экалагічныя паслядоўнасці. У вочы кінуўся «турыстычны столік», які ўяўляў сабой дошку, прыгвазданую да дзвюх жывых альшын. Іх кроны мелі служыць парасонам. Навокал валяліся пляшкі з-пад гарэлкі і заржавелыя банкі з-пад кансерваў...

На канец ашаламіла адна сцэна. Невядома адкуль, на пляжы з'явілася дзеўка ў ледзь відавочным сярэбраным купальніку. Яна нырнула ў ледзяныя хвалі возера і паплыла ў напрамку вострава. Я глядзела ўслед адважнай прыгажуні, сумняваючыся ў яе рэальнасць.



Ікона Міколы Цудатворцы з мошчамі св. Мучанікоў Холмскіх і Падляшскіх



Інтэр'ер царквы св.св. Петра і Паўла

* * *

Тым часам у манастыры ўсе размовы круціліся вакол пасадкі бульбы. За тры дні меў з'явіцца гаспадар з канём і плугам. Да гэтага часу трэба было адабраць дробную бульбу, прывезці гной і раскінуць яго на полі, падрыхтаваць кашы і рабочыя апранахі. Ручная работа не явілася тут чымсьці асаблівым, наадварот, яна прамаўляла як мерка пазбаўленага напыхлівасці быту. Я падзякавала за гасціну і ўсе благадатныя моманты, якія сустрэлі мяне ў Свіцязі. Я ведала, што вярнуся ў гэтае месца.

У дарогу праводзіў мяне сам айцец благачынны. Успаміны пра ветлівасць і добразычлівасць гэтага маладога манаха сагравалі ў далейшай дарозе. Айцец Павел паблагаславіў мяне на дарогу і развітаўся па-палеску:

— Выбачайце, калі што не так!

* * *

У Свіцязь вярнуся праз два месяцы, у разгар турыстычнага сезона. У гэты раз на месца патраплю без падказкі, перасякаючы неасветленыя закавулкі. Увесь пасёлак будзе гудзець ад гульбішчаў і ўцехаў летнікаў.

У манастыры збярэцца група паломнікаў на лячэбны малебен, які па пятніцах, у дзве гадзіны ночы, служаць манахі. Яшчэ больш паломнікаў збярэцца на нядзельную літургію, якую павядзе сам архімандрыт Арсень. Нядзельнае набажэнства будзе доўжылася за чатыры гадзіны. За гэты час архімандрыт ледзь паспее паспавядаць за сотню народу. Асобную чаргу па благаславенства архімандрыта саставяць сем'і з дзеткамі на руках. Пасля літургіі архімандрыт адслужыць яшчэ лячэбны малебен і асвеціць ваду ў вялікай балеі. Ён прагна разбярыць паломнікі ў слоікі і пластмасавыя бутлі. Усіх прыезджых, а іх будзе за дваццаць асоб, манахі запросяць на багаты, смакавіты, посны абед. Як раней, айцец Павел правядзе да брамы манастыра. Ён паблагаславіць на дарогу і развітаецца знаёмымі словамі:

— Выбачайце, калі што не так!

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960